Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4872) 27 мая 2016 г.



СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК




**У сталіцы Расіі, на праспекце Кутузава, непадалёк ад Паклоннай гары, усталяваны помнік народнаму паэту Беларусі Янку Купалу (аўтары — Леў і Сяргей Гумілеўскія).**

*Фота Крысціны Сямёнавых.*

# ПАЧЭСНАЕ МЕСЦА

**Яе Вялікасць Кніга на чатыры дні стане паўнапраўнай гаспадыняй легендарнай пляцоўкі ў Маскве. Менавіта тут, на Краснай плошчы, з 3 па 6 чэрвеня адбудзецца фестываль, які аб'яднае — ужо ў другі раз — усіх, хто шануе Кнігу і Чытанне.**

Гэтым разам фестываль «Красная плошча» абяцае сабраць больш за трыста тысяч гасцей — прафесіяналаў і аматараў. Выданні — лепшыя з лепшых! — зоймуць прастору ад Сабора Васілія Блажэннага да Дзяржаўнага гістарычнага музея. Іх представяць шматлікія рэгіёны Расіі. Але не толькі. Сваю прадукцыю і, адпаведна, сваё майстэрства прадэманструюць і беларускія літаратары ды стваральнікі кніг. Сярод іх — Выдавецкі дом «Звязда». Аргкамітэт аддаў перавагу выдавецтвам, скіраваным на асветніцкую і гуманітарную дзейнасць.

Звыш 100 000 найменняў кніг — вось такі выбар мастацкага, навуковага, дакументальнага, вучэбнага і дзіцячага чытва прапануюць наведвальнікам сёлета. Варта дадаць, што публіку чакае знаёмства не толькі з кнігамі. Выдаўцы пазнаёмяць і са знакамітымі аўтарамі, і сустрэчы гэтыя абяцаюць стаць сапраўдным святам для пісьменнікаў і кнігалюбаў! Пры гэтым культурная праграма кірмашу прадугледжвае мноства падзей для юных аматараў літаратуры. А яшчэ — музычныя выступленні, мастацкія выстаўкі…

Такім чынам, кніжны фестываль надае Краснай плошчы новае вымярэнне: літаратурнае, музычнае, тэатральнае. І крыху беларускае — праз нашу кнігу.

Працяг тэмы на стар. 2 — 11

## Пункцірам

✔ Падчас сустрэчы ў Апостальскім палацы ў Ватыкане Прэзідэнт Беларусі і Папа Рымскі абмеркавалі развіццё адносін Беларусі з Рымска-каталіцкай царквой. Аляксандр Лукашэнка падарыў пантыфіку Францыску копію крыжа Ефрасінні Полацкай, выкананую з дапамогай унікальнай тэхнікі разьбы па дрэве, мадэль карэты, зробленую па той жа тэхналогіі, а таксама галаграфічны абраз. Папа Рымскі падарыў Прэзідэнту свае працы, датычныя Евангелля, аховы прыроды і сям'і, якія Аляксандр Лукашэнка паабяцаў перадаць Прэзідэнцкай бібліятэцы. Мастацкая выява аліўкавага дрэва — яшчэ адзін падарунак пантыфіка — падкрэсліла мірную місію, якую ўзяла на сябе Беларусь.

✔ Прэзідэнт Беларусі накіраваў прывітанне ўдзельнікам і гасцям XIII Міжнароднага фестывалю «Масква сустракае сяброў». «Стала добрай традыцыяй на розных пляцоўках Масквы і Маскоўскай вобласці знаёміць шырокую публіку з майстэрствам таленавітых юных музыкантаў з розных краін, — гаворыцца ў прывітанні. — Сёння вельмі важна, каб культура, у тым ліку музычная, захавала сваё прызванне — заставацца адным з важных фактараў узаемаразумення і ўзаемапавагі паміж народамі». Прэзідэнт выказаў упэўненасць, што фестываль адкрые новыя імёны і падорыць выключна пазітыўныя эмоцыі ад знаёмства з музычнай творчасцю маладых талентаў.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 70-гадовым юбілеем народнага артыста Расіі Мікалая Досталя. «У Беларусі Вас ведаюць і шануюць як выдатнага акцёра, рэжысёра і сцэнарыста. Вы карыстаецеся сапраўды ўсенародным каханнем і глыбокай пашанай калегаў — прафесіяналаў сцэны і кінамастацтва», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Паводле намесніка міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка, чакаецца, што сёлета адразу два рэспубліканскія фестывалі — нацыянальных культур у Гродне і фальклорнага мастацтва «Берагіня» у г. п. Акцябрскі — упершыню пройдуць пад патранатам ЮНЕСКА. Падчас прэс-канферэнцыі прадстаўнікоў Міністэрства культуры таксама стала вядома, што нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2016» пройдзе пад эгідай 75-годдзя з дня нараджэння народнага артыста Беларусі і СССР, заснавальніка і кіраўніка ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна і Года культуры ў Беларусі.

✔ Гальшаны ў сёмы раз прынялі фестываль сярэднявечнай культуры «Гальшанскі замак». Свята сабрала мноства гасцей не толькі з Беларусі, але і краін блізкага замежжа. Адметнасцю фэсту стаў спектакль «Адвечная песня», які каля сцен замка паставілі прадстаўнікі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Ад замка стартавалі экскурсіі па незвычайных і таямнічых мясцінах Гальшанаў. Увечары гасцей чакала музычная праграма з удзелам вядомых этна-фолк груп і фаер-шоу.

✔ Заўтра ў парку імя Янкі Купалы пройдзе вялікі ўрок адукацыйнага праекта «Чытаем па-беларуску з *velcom*», на які збяруцца больш за 200 мінскіх школьнікаў. Ініцыятарам выступіла кампанія *velcom* пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры, Мінгарвыканкама, Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў. У мерапрыемстве бяруць удзел пісьменнікі — настаўнікі праекта, спецыяльныя госці — вядомыя спартсмены, а таксама прадстаўнікі органаў улады.

## Кантакты

# Як маладыя бачаць свет?

**Наладзіць літаратурныя стасункі паміж маладымі аўтарамі Беларусі, Расіі і Украіны, умацаваць добрасуседскія адносіны між народамі трох краін — менавіта на гэта быў скіраваны Літаратурны Фестываль маладых пісьменнікаў, які ладзіўся ў Рэспубліканскім гарналыжным цэнтры «Сілічы».**

Фэст арганізаваны Фондам сацыяльна-эканамічных і інтэлектуальных праграм сумесна з расійскімі літаратурнымі часопісамі («Наш современник», «Арион», «Вопросы литературы», «Дружба народов», «Иностранная литература» ды інш.) і інтэрнэт-выданнямі пры ўдзеле Саюза пісьменнікаў Беларусі і часопіса «Радуга» (г. Кіеў, Украіна).

Акрамя майстар-класаў для маладых паэтаў, празаікаў і крытыкаў у фестывальнай праграме было шмат цікавых творчых сустрэч. Адна з іх — «круглы стол» па тэме «Свет вачыма маладога пісьменніка» ў Доме літаратара.

— Слова, літаратура запатрабаваныя ў сучасным свеце, і радуе, што ў сённяшнім адукаваным грамадстве расце цікавасць да кнігі, да чытання, — упэўнены прэзідэнт Фонду сацыяльна-эканамічных і інтэлектуальных праграм Сяргей Філатаў.

А менавіта ў такім, інтэлектуальным, асяродку цалкам здольныя раскрыцца таленты. Дарэчы, падчас «круглага стала» Сяргей Аляксандравіч атрымаў з рук беларускага пісьменніка і навукоўца Івана Саверчанкі вышэйшую ўзнагароду СПБ — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Часопіс «Иностранная литература» ўдзельнікам «круглага стала» прадставіў галоўны рэдактар выдання Аляксандр Лівергант, зазначыўшы, што ў апошнім нумары мінулага года, прымеркаваным да 60-годдзя часопіса, упершыню былі апублікаваны творы двух беларускіх аўтараў: вершы Алеся Бадака і проза Уладзіміра Сцяпана.

Аднаго неасцярожнага слова бывае дастаткова, каб поўнасцю адбіць у чалавека жаданне пісаць. У той жа час словам можна так натхніць, што любоў да кнігі, да літаратуры застанецца ў сэрцы назаўсёды. Такую думку падчас «круглага стала» выказала маладая пісьменніца з Расіі Алена Тулушава. Дарэчы, публікацыі яе твораў можна пабачыць у айчынных літаратурна-мастацкіх часопісах, такіх, як «Нёман» і «Белая Вежа». Наватарства, авангардызм — вось што не зашкодзіла б маладому літаратару, лічыць яшчэ адзін малады расійскі аўтар — празаік Святаслаў Іваноў.

Зразумела, што навучыць пісаць немагчыма. Але, на думку паэтэсы, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сталічнай гімназіі № 25 Вольгі Шпакевіч, вельмі важна сфарміраваць у пачаткоўца ўменне выказваць пачуцці словамі.

Пра літаратурна-мастацкія часопісы, якія аб'ядноўвае Выдавецкі дом «Звязда», распавёў намеснік дырэктара — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота. Сярод айчынных выданняў асноўнай творчай пляцоўкай для маладых аўтараў застаецца часопіс «Маладосць». Інтэрнэт-партал «Сугучча» прадстаўляе літаратуру краін СНД. Якраз цяпер на «Сугуччы» ладзіцца конкурс маладых аўтараў.

Увогуле, вельмі радуе, што сёння маладая літаратура несупынна развіваецца. І міжнародныя творчыя сустрэчы маладых аўтараў — надзейны падмурак для трывалых стасункаў паміж пісьменніцкімі супольнасцямі братніх краін.

**Яна ЯВІЧ**



*Фота Кастуся Дробава.*

## Фотапозірк

# Дзень. Памяць. Багдановіч

## Сёлета роўна стагоддзе з моманту апошняга спаткання паэта з родным горадам…

Многія сучаснікі Максіма Багдановіча, класіка беларускай літаратуры, які правёў дзяцінства на Яраслаўшчыне, адчувалі неверагодную сілу, што ішла ад яго радкоў. «Ёсць такія песняры, у якіх паэтычныя творы гарманіруюць з іх уласным жыццём. Яны з'яўляюцца паэтамі і ў звычайным жыцці. Да гэтага ліку і належыць наш пясняр Максім Багдановіч», — так выказаўся Змітрок Бядуля, сябра, поруч з якім правёў мінскія месяцы Багдановіч. Паводле згадак таварыша, нястрымны запал і энергія Максіма перадаваліся ўсяму атачэнню паэта. Бадзёрым, вясёлым, гаваркім, апантана прагным да творчасці запомніўся ён мінскім сябрам.

Пачаліся ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню памяці Максіма Багдановіча, з паніхіднай службы ў сталічным Саборы святых Пятра і Паўла. Затым адбылося ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу ў скверы каля опернага тэатра. І завяршыўся гэты ўрачысты дзень вечарынай «Хай чытач мой зноў былое пражыве...» у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**27 мая** — *у міжнародную літаратурную гасцёўню «Дыялог сяброў» на творчую сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі. Імпрэза пройдзе ў офісе турэцкага грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**30 мая** — *на творчае свята з удзелам пісьменніка Валерыя Чудава ў СШ № 8 (вул. Ангарская, 48/2). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**30 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Ганнай Чумаковай у літаратурную студыю «Крынічка» пры гімназіі № 25 (вул. Чырвонаслабодская, 84). Пачатак у 10.30.*

**31 мая** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» пры публічнай бібліятэцы №5 (вул. Казлова, 2) на літаратурна-музычнае свята «Усё вакол запоўніла вясна». Пачатак у 17.30.*

**1 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай з Лос-Анджэлеса Інай Санінай у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 чэрвеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**3 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам празаіка Тамары Бунта ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 11-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**2 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў Міншчыны з празаікамі аддзялення ў школу «Со-творчество» (г. Мінск, пл.Свабоды,13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

**4 чэрвеня** — *на імпрэзу Пухавіцкага раённага аўтарскага аб'яднання «Наедине со всеми» з удзелам сяброў аддзялення Ірыны Карнаухавай, Святланы Быкавай і Уладзіміра Рунцэвіча ў Рудзенскі гарпасялковы Дом культуры. Пачатак а 13-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**5 чэрвеня** — *на рэгіянальнае свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору «Гарадоцкі Парнас-2016» з удзелам пісьменнікаў Генадзя Пашкова, Тамары Красновай-Гусачэнка, Міколы Шабовіча, Дзмітрыя Пятровіча, Анатоля Зэкава (г. Гарадок Віцебскай вобласці, цэнтральная плошча). Пачатак у 11.00.*

# Прысесці побач з класікам

## Помнік Янку Купалу можа з'явіцца ў Татарстане



Лаўка на беразе Волгі, на якой любіў сядзець Купала.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

**ПЯЧЫШЧЫ**

*Кліч у сэрцы гоіць раны,*
*Гоніць чорны цень вайны:*
*«Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!»*

*Лістабой завейна свішча,*
*Снегавей узнёс крыло.*
*Бераг Волгі… і Пячышчы…*
*Зрок снягамі адняло.*

*А на снезе — кроў ірдзіцца,*
*Чорны след варожых зграй.*
*З ночы ў ноч паэту сніцца*
*Здратаваны родны край.*

*Хат згарэлых папялішчы,*
*Жах і слёзы, немы крык.*
*Ды прыволжскія Пячышчы*
*Дням яго падводзяць лік.*

*Ён, выгнаннік, лёсам гнаны,*
*Тут знайшоў прытул зямны.*
*Шэпча Волзе: — Партызаны,*
*Беларускія сыны!*

*Сэрца гневам узарвецца*
*На палях тваіх, вайна!*
*І Купалу адзавецца*
*Краю кожная сасна.*

*Смерці-зводніцы ігрышчы,*
*Лёсу змрочлівая золь…*
*Татарстан… Сяло Пячышчы…*
*І паэта вечны боль…*

Яго стварэнне і ўсталёўка — адзін з пунктаў пагаднення аб супрацоўніцтве, падпісанага ўвосень мінулага года паміж Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы і Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміяй беларусаў Расіі. Мяркуецца, што помнік паэту з'явіцца ў Пячышчах, непадалёк ад Казані, дзе Купала пражыў восем месяцаў падчас эвакуацыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, тут жа з 1975 года працуе і адзіны ў Расіі музей песняра — філіял Нацыянальнага музея Рэспублікі Татарстан.

Менавіта Пячышчы сталі для Купалы апошнім утульным і цёплым прытулкам. Тут ён пісаў вершы, публіцыстыку. Наш пясняр асабліва любіў бавіць час ля ракі Волгі. На сваёй любімай лаўцы, на высокім беразе ракі, ён часта сядзеў, задуменна ўзіраючыся ўдалячынь, гутарыў з мясцовымі жыхарамі. Таму верагодна, што помнік Купалу будзе менавіта такім: фігура паэта размесціцца на лаўцы, а побач з класікам застанецца месца і для аматара яго паэзіі ці проста мінака, якога яшчэ толькі чакае знаёмства з яго спадчынай.

— Я ведаю, што скульптар Павел Вайніцкі, які з'яўляецца таксама аўтарам мемарыяльнай дошкі Купалу ў Рызе, ужо распрацаваў эскізы будучага помніка. Але мы хочам даць магчымасць усім творцам выказаць свае прапановы, таму будзе аб'яўлены конкурс на лепшы праект помніка, яго мастацкае рашэнне, — кажа дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч. — Спадзяюся, што гэты праект удасца ажыццявіць. Справа гонару кожнага беларуса, каб помнік песняру быў у Татарстане, у Пячышчах, на той зямлі, што дала апошні сямейны дом Купалу.

Гэтага ж меркавання прытрымліваецца і Ганаровы консул Беларусі ў Казані Сяргей Марудэнка. Ён лічыць, што помнік Купалу ў Татарстане абавязкова павінен быць устаноўлены, бо гэта след нашага земляка на Паволжы. Дарэчы, па меркаванні Сяргея Паўлавіча, помнік беларускаму класіку ў Пячышчах можа павысіць цікавасць жыхароў і гасцей Татарстана да гэтага сяла.

Пра Купалу ў Пячышчах памятаюць. Пра гэта сведчыць праца музея беларускага класіка, адкрытага ў той жа кватэры, дзе Купала з жонкай Уладзіславай Францаўнай жылі падчас эвакуацыі.

— Калі ў 1975 годзе стварыўся музей, — распавядае вядучы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Янкі Купалы Галіна Варонава, — то на гарышчы дома знайшлі мэблю, што стаяла ў кватэры, калі там жыў Купала з жонкай. Відаць, новыя жыхары, набыўшы новую мэблю, старую проста схавалі на гарышчы, таму яна і захавалася. А музей Купалы ў Пячышчах можна лічыць мемарыяльным, бо ён захоўвае аўтэнтычныя рэчы, звязаныя з жыццём нашага класіка. Сёння яны размешчаныя ў мемарыяльным пакоі, дзе ўсё застаецца так, як было пры Купалу.




Адметна, што і ў музеі Купалы ў Мінску ёсць прадметы, што распавядаюць пра побыт песняра ў Татарстане.

— Гэта найперш асабістыя рэчы класіка: скрыня, прылады для галення, запалкі, сцізорык, самаробны падсвечнік, выраблены рабочымі мукамольнага камбіната — менавіта на яго тэрыторыі размяшчалася кватэра, дзе жыў класік, — па просьбе самога Купалы. Падсвечнік абпалены, таму відавочна, што Іван Дамінікавіч ім карыстаўся, — падкрэслівае Галіна Юр'еўна.

У Пячышчах Купала шмат працаваў, пісаў вершы, публіцыстыку. Тут напісаны вершы «Зноў будзем шчасце мець і волю», «Хлопчык і лётчык на вайне», тут Купала працаваў над баладай «Дзевяць асінавыхколляў» (захаваўся цікавы чарнавік гэтага твора на пачку папірос «Ява»). На беразе Волгі ён напісаў артыкул «Кліч да беларускага народа», даклад «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», які прагучаў на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук, што праходзіла ў Казані. Дарэчы, менавіта ў Казані 18 студзеня 1942 годзе адбываўся і радыёмітынг беларускага народа. Для ўдзелу ў ім Купала адмыслова наведваў Казань, нават, паводле ўспамінаў, пераехаў Волгу па лёдзе.

І гэта нядзіўна. Бо, як успамінаюць мясцовыя жыхары, зіма з 1941 на 42-і год была вельмі халоднай: 35 — 40 градусаў ніжэй за нуль! Таму Купалу, які ў той час часта хварэў на прастуду, вельмі пашанцавала жыць не ў гасцініцы ў Казані (там тэмпература паветра ў пакоях не ўздымалася вышэй васьмі градусаў цяпла), а ў службовай кватэры мукамольнага камбіната, які меў сваю кацельную, таму ў пакоі Песняра было адносна цёпла.

Дарэчы, запрасіў Купалу застацца ў Пячышчах тагачасны дырэктар мукамольнага камбіната Іван Наякшын. Ён быў знаёмы з творчасцю паэта, таму палічыў за гонар запрасіць яго да сябе ў госці, а потым і прадаставіў класіку з жонкай службовую кватэру ад камбіната. Ды і сам Купала, знясілены доўгай вандроўкай з Масквы па разбітых ваенных дарогах, рады быў хутчэй апынуцца ва ўтульным і гасцінным доме замест таго, каб доўгі час чакаць пераправы на пароме ў Казань.

— Наш музей падтрымлівае сяброўскія стасункі з музеем Купалы ў Пячышчах, — кажа Галіна Варонава. — Калегі з Татарстана прыязджаюць да нас на канферэнцыі і ўрачыстасці, мы ж наведваем музейныя форумы ў Казані, рыхтуем для нашых калег выстаўкі.

Дарэчы, плануецца, што цягам наступнага года чатыры мемарыяльныя дошкі Купалу з'явяцца ў Славакіі. Яны будуць адлюстроўваць шлях песняра ў вандроўцы па гэтай краіне. Ужо ёсць папярэднія дамоўленасці з мэрамі гарадоў, хутка адкрыецца дабрачынны рахунак, дзе будуць збірацца сродкі на ўстаноўку памятных знакаў беларускаму класіку.

**Марына ВЕСЯЛУХА.**
**Фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**



Фота Кастуся Дробава.

Рэчы, якімі Янка Купала карыстаўся ў Пячышчах.

# Няма межаў для літаратуры

Кніга, літаратурны часопіс — своеасаблівы мост, які аб'ядноўвае Беларусь і Расію. Нават конкурс маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы называецца «Мост дружбы». Беларускія пісьменнікі друкуюцца ў расійскіх выданнях, а маладыя літаратары ў Расіі пішуць вершы па-беларуску. Які плён мае такое супрацоўніцтва? Наколькі цікавая суседній краіне беларуская літаратура? Адказы на гэтыя пытанні мы паспрабавалі адшукаць у пісьменнікаў і выдаўцоў з абодвух бакоў.

**Алесь Бадак, беларускі пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:**

— Нягледзячы на стэрэатып, быццам інтэрнэт і тэлебачанне адабралі кнігі ў чалавека, на самай справе чытач сёння ёсць. Больш за тое: чытаюць не толькі класіку і папулярных замежных аўтараў. Сучасную беларускую літаратуру — таксама. Вядома, наш кніжны рынак нельга параўнаць з расійскім, які не абмяжоўваецца тэрыторыяй Расіі. Але і там тыражы ў сур'ёзнай прозы (калі не браць пад увагу вельмі раскручаныя, модныя імёны) не нашмат большыя, а то і такія ж. Добра разыходзіцца дзіцячая літаратура, хаця зноў удакладню: цікавая. Таму шанец прабіцца на вялікі кніжны рынак Расіі ёсць.

На вялікі жаль, сёння не вельмі ахвотна ў цэлым набываюць паэзію. Увогуле, мне заўсёды здавалася, што бліжэй рускіх і беларусаў няма. Але некалькі гадоў таму мы сутыкнуліся з тым, што ні ў Беларусі не ведаюць сучасную рускую літаратуру, ні ў Расіі беларускую. Гэту праблему мы спрабуем вырашаць сумесна: у «Нёмане», напрыклад, выходзяць тэматычныя нумары, прысвечаныя сучаснай рускай літаратуры. Дый шмат беларускіх пісьменнікаў друкуюцца ў расійскіх літаратурных часопісах, такіх як «Наш современник», «Роман-газета», і іншых. З творчасцю рускіх пісьменнікаў беларусы знаёмяцца і дзякуючы руска-беларускаму часопісу «Белая вежа». Акрамя таго, кожны год на Дні беларускага пісьменства да нас прыязджаюць члены Саюза пісьменнікаў Расіі. Так што будзем спадзявацца, што сувязі стануць мацнейшымі.

**Іван Чарота, перакладчык, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук:**

— Калі па шчырасці, вымушаны канстатаваць, што ў замежжы асаблівай увагі да беларускай літаратуры няма. А каб гэта змяніць, патрэбна прыкладаць вялікія намаганні з нашага боку. Тут не абысціся без сур'ёзных праграм, а галоўнае, без фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы — для перакладчыкаў, крытыкаў, выдаўцоў. Інакш паўнавартасная і плённага супрацоўніцтва не будзе. Таму публікацыя беларускіх пісьменнікаў у расійскіх выданнях і выдавецтвах у значнай ступені добра адбіваецца на культурных, літаратурных кантактах.

Ёсць і яшчэ адна істотная акалічнасць, пра якую мы самі не любім гаварыць: толькі каля 5% перакладаў беларускай літаратуры ажыццяўляецца з мовы-арыгінала, а каля 95% — з рускай, праз рускую. Ды і ў самой нашай краіне зусім не ідылічная сітуацыя з падрыхтоўкай спецыялістаў па тэорыі і практыцы менавіта мастацкага перакладу. Таму адсутнасць моўнага бар'еру паміж Беларуссю і Расіяй — яшчэ адзін станоўчы фактар, які спрыяе наладжванню агульнай літаратурнай прасторы паміж краінамі.

Працяг на стар. 11

# Адрасы беларускай літаратуры ў Маскве

Сувязі беларускай і рускай літаратур, несумненна, таму настолькі грунтоўныя, што прасочваюцца праз жыццё і творчасць яркіх мастацкіх талентаў. Напрыклад, у розныя гады ў Беларусі былі, збіралі ўражанні Аляксей Талстой, Аляксандр Блок, Валянцін Катаеў, Канстанцін Паўстоўскі, Міхаіл Зошчанка, Аляксандр Твардоўскі, Андрэй Вазнясенскі, Яўгеній Еўтушэнка...

І, зазірнуўшы ў Маскву, можна заначыць, што са сталіцай Расіі звязаны дзясяткі, а то і сотні беларускіх паэтаў, празаікаў, крытыкаў... Мы называем толькі некаторыя адрасы беларускай літаратуры ў Маскве.

***Вуліца АРБАТ, дом 51, кв. 33***

У 1923 — 1927 гадах тут, на кватэры тэатральнага дзеяча і драматурга Алеся (Аляксандра Францавіча) ЛЯЖНЕВІЧА, месціўся Беларускі дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва (БДІТМ) і яго Беларуская драматычная студыя ў Маскве. Рэктарам яе быў гаспадар кватэры, інспектар Наркама нацыянальнасцей. У памяшканні бывалі Янка КУПАЛА, Якуб КОЛАС, займалася мастацтвамі паэтэса Канстанцыя БУЙЛО. 24 мая 1924 г. у памяшканні студыі быў паказаны батлеечны спектакль «Цар Максіміліян».

***АХОТНЫ РАД, Дом Саюзаў, Калонная зала***

У 1934 г. у гэтай зале адбыўся І з'езд Саюза пісьменнікаў СССР, у якім актыўны ўдзел узялі беларускія пісьменнікі. 16 кастрычніка 1968 г. тут, на вечары, прысвечаным памяці таджыкскага класіка Садрыдзіна Айні (у сувязі з 90-годдзем з дня яго нараджэння), меў прамову празаік Іван МЕЛЕЖ. Ён жа 17 снежня таго ж года прысутнічаў у зале на вечары, прысвечаным 50-годдзю БССР і КПБ.

***Вуліца ВАЛХОНКА, 8***

У Першую сусветную вайну тут знаходзіўся Маскоўскі шпіталь Біржавага купецкага таварыства. У жніўні і верасні 1915 г. у ім лячыўся празаік Максім ГАРЭЦКІ.

***Вуліца ВАРОЎСКАГА, 52. Клуб Саюза пісьменнікаў СССР***

Да вайны, у вайну і пасля яе ў будынку клуба праходзілі статутныя мерапрыемствы, вечары, прысвечаныя класікам беларускай літаратуры, аўтарскія сустрэчы. Пры Саюзе працавалі кансультанты па беларускай літаратуры. Апошняй з іх з'яўлялася перакладчыца Валянціна ШЧАДРЫНА.

***Вуліца ВЯЛІКАЯ ГРУЗІНСКАЯ, дом 56, кв. 10***

Сяміпавярховы дом з ліфтам, пабудаваны, мяркуючы па архітэктуры, у 1920-я гг. На пятым паверсе ў даваенны час жыў мастак К. Елісееў, у якога на пачатку Вялікай Айчыннай вайны, 7 ліпеня 1941 г., знайшоў прытулак Янка КУПАЛА. Яго тут наведаў, будучы салдатам, празаік Іван ГРАМОВІЧ. Мяркуючы па «Графіку дзяжурства па ахове дома ад запальных бомбаў», які цяпер дэманструецца ў Музеі Янкі Купалы ў Мінску, беларускі пясняр таксама прымаў удзел у супрацьпаветранай абароне. У 1981 г. у кватэры яшчэ жыла нявестка К. Елісеева, якая памятала паэта і расказвала пра яго аднаму з аўтараў гэтага тэксту.

***Вуліца МАКСІМА ГОРКАГА, дом 49. Гасцініца «Якар»***

У час Вялікай Айчыннай вайны ў будынку гасцініцы месціліся рэдакцыі газет «Савецкая Беларусь» і «Раздавім фашысцкую гадзіну», жылі многія беларускія пісьменнікі. На трэцім паверсе знайшлі часовае пасяленне Кузьма ЧОРНЫ, Пятро ГЛЕБКА, Ілья ГУРСКІ, Павел КАВАЛЁЎ, герой аповесці Якуба КОЛАСА Дзед Талаш. Ва «Успамінах пра Ілью Гурскага» гаворыцца, што іх пакой зрабіўся «як бы беларускім клубам у ваеннай Маскве». П. Кавалёў, які жыў тут у «маленькім пакойчыку» з К. Чорным, згадваў, што зімой там было холадна, і таму апошні змайстраваў «самадзейны кіпяцільнік». П. Кавалёў тут сустракаўся і доўга гутарыў з Міхасём ЛЫНЬКОВЫМ. 22 чэрвеня 1944 г. Якуб КОЛАС пісаў Лукашу Бэндэ, што П. Глебка «жыве ў "Якары" ў пакоі 45». А ў 1943 г. у той жа гасцініцы прабываў Янка МАЎР.

***Вуліца 25 КАСТРЫЧНІКА, дом 15. Маскоўскі дзяржаўны гісторыка-архіўны інстытут***

Паводле слоў маскоўскага беларусіста, доктара філалагічных навук Юрыя ЛАБЫНЦАВА («Улица 25 Октября, 15». М., 1986), будынак інстытута, у якім вучыліся многія беларускія пісьменнікі, гісторыкі і архівісты (Генадзь КАХАНОЎСКІ, Генадзь КІСЯЛЁЎ і інш.), цесна звязаны з гісторыяй беларускай літаратуры. Раней тут знаходзілася Маскоўская сінадальная друкарня, у якой пабачылі свет кнігі паэта-асветніка Сімяона ПОЛАЦКАГА. Пасля вучобы ў Кіеве і прабывання ў Полацку ён правёў апошніх 16 гадоў жыцця ў Маскве, дзе вучыў царскіх дзяцей, выступіў пачынальнікам новага паэтычнага стылю барока, заснавальнікам школьнага тэатра. Пахаваны наш суайчыннік у Заіконаспаскім манастыры.

Да Маскоўскай сінадальнай друкарні на тым жа месцы знаходзіўся будынак Друкарскага двара, дзе ў 1564 г. асветнікі Іван ФЁДАРАЎ і Пятро МСЦІСЛАВЕЦ выдалі першую ў Расіі друкаваную кнігу «Апостол». Прозвішча другога з іх яўна сведчыць пра яго беларускае паходжанне. Што ж датычыць І. Фёдарава, то беларускія, рускія і амерыканскія даследчыкі ўсё часцей сцвярджаюць, што яго герб сведчыць пра шляхецкае паходжанне (прытым указваючы канкрэтныя мясціны нараджэння: адныя аўтарамі — у ваколіцах Баранавіч, другімі — у былым Вілейскім павеце). Потым расійскія першадрукары з Масквы пераехалі, каб прадоўжыць сваю асветніцкую справу, на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, у Супрасль.



Расійскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт. Былы Маскоўскі гарадскі народны ўніверсітэт, дзе вучыўся Купала.

***Вуліца МАРХЛЕЎСКАГА, 27 (раней вуліца МАЛАЯ ГРУЗІНСКАЯ, МІЛЮЦІНСКІ завулак)***

Тут, у Петрапаўлаўскім касцёле, 23 студзеня 1916 г. Янка КУПАЛА ўзяў шлюб з Уладзіславай СТАНКЕВІЧ (цёткай Уладзяй). Дэканам і пробашчам касцёла ў той час быў Ігнат Чаеўскі, ксяндзамі — Эміль Паўкшта, Віктар Герасімовіч і Антон Квяткоўскі.

***Вуліца КРАСІНА (былая УЛАДЗІМІРА-ДАЛГАРУКАЎСКАЯ), дом 27, кв. 73***

У гэтым трохпавярховым чырвоным, сёння нежылым, доме, які належаў купцу Калініну і адным канцом выходзіць на ЦІШЫНСКУЮ плошчу, у час Першай сусветнай вайны жыў і 23 верасня 1915 г. быў па пашпарце прапісаны Янка КУПАЛА. Гаспадыняй кватэры з'яўлялася Марыя Станкевіч, старэйшая сястра Уладзіславы СТАНКЕВІЧ, з якой паэт 23 студзеня 1916 г. узяў шлюб у Петрапаўлаўскім касцёле па вуліцы МАРХЛЕЎСКАГА, 27. Пражываючы на вуліцы Уладзіміра-Далгарукаўскай, паэт запоўніў «Статыстычныя звесткі» для вучобы ва ўніверсітэце імя А. Шаняўскага на МІУСКАЙ плошчы, указаўшы тэлефон Станкевічаў.

***Плошча КРАСНАЯ. Расійскі гістарычны музей***

У багатым аддзеле рукапісаў музея захоўваецца многа тэкстаў, якія маюць прамое дачыненне да гісторыі беларускай літаратуры. Найперш гэта творы беларускай песенна-інтымнай лірыкі XVII ст., якія даследаваны і часткова апублікаваны ў кн.: Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. У фондах аддзела ёсць таксама матэрыялы пра жыццё і творчасць Сімяона ПОЛАЦКАГА, літаратурнае жыццё на беларускіх землях XVII — XIX стст. У музеі экспануюцца слуцкія паясы, успетыя Максімам БАГДАНОВІЧАМ, які не раз праязджаў праз Маскву і, напэўна ж, тут спыняўся, аглядаў музеі па шляху з Паволжа ў Беларусь і наадварот.

***Праспект ЛЕНІНСКІ, 64. Дзяржаўны літаратурны музей Расіі***

Побач з рукапісамі, якія маюць прамое дачыненне да гісторыі беларускай літаратуры, тут захоўваюцца фанаграмы з галасамі беларускіх пісьменнікаў. У 1980 г. тут была арганізавана першая выстаўка «Літаратура, якая гучыць». Наведвальнікі маглі тады пачуць выступленне Якуба КОЛАСА з трыбуны з'езда пісьменнікаў у Маскве, Янкі Брыля — на вечары памяці літоўскага пісьменніка Пятраса Цвіркі, Петруся БРОЎКІ, які чытаў свае вершы. У музеі ёсць поўны запіс вечара, прысвечанага Якубу Коласу, у лістападзе 1972 г. у Калоннай зале Дома Саюзаў, грампласцінка з араторыяй Д. Смольскага на вершы беларускіх паэтаў.

***Праспект Карла МАРКСА, дом 7. Месца былой гасцініцы «Масква»***

28 чэрвеня 1942 г., узнімаючыся па тэлефонным выкліку з чацвёртага паверха месца жыхарства на дзясяты, дзе яго чакалі сябры, трагічна загінуў класік беларускай літаратуры Янка КУПАЛА. Існуе некалькі версій прычыны смерці.

У «самыя цяжкія гады вайны» на дзявятым паверсе ў гасцініцы жылі ў адным вялікім пакоі Максім ТАНК, Павел КАВАЛЁЎ і тагачасны намеснік рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» Ісак Шляфер, а на восьмым паверсе — Кузьма ЧОРНЫ, акно якога «глядзела на Ахотны рад». У 1944 г. тут прымалі ў члены Саюза пісьменнікаў БССР паэтэсу Канстанцыю БУЙЛО, якая тады жыла ў Маскве (старшыня пасяджэння — Міхась ЛЫНЬКОЎ, сакратар — Пятрусь БРОЎКА). Паводле ўспамінаў, рускі пісьменнік Сяргей Сартакоў у гатэлі аднойчы абедаў з Петрусём БРОЎКАМ, Пятром ГЛЕБКАМ і Іванам МЕЛЕЖАМ.

***Плошча МІУСКАЯ, дом 6. Былыя Маскоўскі гарадскі народны ўніверсітэт імя А. Шаняўскага, у савецкі час — Акадэмія грамадскіх навук ЦК КПСС***

Універсітэт быў арганізаваны на сродкі А. Л. Шаняўскага і ставіў сваёй задачай пашырэнне вышэйшай адукацыі ў Расіі. Яго студэнтамі з'яўляліся С. Ясенін, А. Серафімовіч, І. Белавусаў і іншыя рускія пісьменнікі. Лекцыі чыталіся ў размешчаным па суседстве Прамысловым вучылішчы з 8 да 10 гадзін вечара. Плата ў год складала ўсяго шэсць рублёў. У верасні 1915 г. іх унёс Янка КУПАЛА, які паступіў тады на першы курс лекцый гісторыка-філасофскага цыкла. У канцы студзеня 1916 г. спыніў вучобу ў сувязі з прызывам у армію і пераездам у Мінск.

***Завулак ГРАНАТНЫ, дом 24***

У першыя гады савецкай улады тут знаходзіўся выдавецкі аддзел Белнацкама, які выдаў зборнік «Зажынкі» (1921). Сюды часта заходзіў празаік Цішка ГАРТНЫ.

***Вуліца МОХАВАЯ, дом 1. Стары будынак Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Міхайлы Ламаносава***

25 лістапада 1923 г. студэнты-беларусы ўніверсітэта паставілі тут спектакль паводле вадэвіля Леапольда РОДЗЕВІЧА «Збянтэжаны Саўка». А 5 снежня 1926 г. у актавай зале 1 Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта адбылося ўрачыстае пасяджэнне з нагоды 20-годдзя літаратурнай творчасці Якуба КОЛАСА. Юбіляр выступіў з чытаннем сваіх твораў.

***Вуліца НОВАСЛАБАДСКАЯ, дом 45. Бутырская турма***

Тут, у Цэнтральнай перасыльнай турме, празаік і драматург ЯДВІГІН Ш. у 1891 г. адбываў зняволенне за ўдзел у хваляваннях студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта.

***Вуліца ПОВАРСКАЯ, дом 52***

У 1918 г. у гэтым будынку знаходзіліся Белнацкам і рэдакцыя газеты «Дзянніца», рэдактарам-выдаўцом якой з'яўляўся Зміцер Жылуновіч (празаік Цішка ГАРТНЫ). Да яго прыходзілі пісьменнікі Канстанцыя БУЙЛО, Максім ГАРЭЦКІ, Язэп ДЫЛА і іншыя. У канцы года Белнацкам перасяліўся ў ГРАНАТНЫ завулак.

***Прыгарад ХІМКІ***

Тут, на поўнач ад Масквы, знаходзіцца газетны філіял Дзяржаўнай бібліятэкі Расіі (ранейшая бібліятэка імя У. І. Леніна), дзе засяроджана перыёдыка 1920 — 1930-х гг. У Хімках жыў пасля вяртання са ссылкі паэт Міхайла ГРАМЫКА, якога тут наведвалі Данута БІЧЭЛЬ, Янка БРЫЛЬ, Ніл ГІЛЕВІЧ і інш. Пахаваны М. Грамыка на Хімкінскіх могілках.

***Вуліца ЦІХВІНСКАЯ, дом 16, кв 1***

У час Першай сусветнай вайны тут жыла ў бежанстве сям'я Яўгена Скурко (будучага паэта Максіма ТАНКА). Хлопчык хадзіў у школу, якая знаходзілася на супрацьлеглым баку вуліцы. У Маскве ён распачаў знаёмства з рускай класікай.

***Завулак ЦІХВІНСКІ, дом 11, кв. 20***

У доме знаходзілася трохпакаёвая кватэра паэтэсы Канстанцыі БУЙЛО. Па яе ўспамінах, тут «часта бываў сардэчны, ціхі ў размове, у якой заўсёды быў глыбокі сэнс, Янка КУПАЛА. Тут з ім і без яго часта гасціла разумная, быстрая на словы і рухі, сардэчная, любімая мной Уладка. Пасля смерці Купалы яна жыла ў мяне».

***Плошча ЦІШЫНСКАЯ, дом 27***

Як піша Алег Лойка ў сваёй кнізе «Як агонь, як вада», 23 верасня 1915 г. Янка КУПАЛА быў «яўлены і запісаны» Прэсненскай часткай 2-га ўчастка паліцыі ў доме Калініна пад нумарам 27. Адрасам прабывання ён назваў д. 27, кв. 73 па вуліцы УЛАДЗІМІРА-ДАЛГАРУКАЎСКАЙ, дзе жыла Марыя Станкевіч, старэйшая сястра яго будучай жонкі Уладзіславы.

***Вуліца ЦЮРУПЫ ў Новых Чаромушках***

Як засведчыў у сваёй кнізе «Так і было» (Мн., 1986) паэт Сяргей ГРАХОЎСКІ, на гэтай вуліцы ён наведваў (нумар дома і кватэры не ўстаноўлены) рэабілітаванага паэта Уладзіміра ДУБОЎКУ.

**Адам МАЛЬДЗІС, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**Працяг у наступным нумары**

**Культура прырастае кантактамі. Праз іх лепш разумець сябе: адзначаць самае каштоўнае і ўзважваць, якімі арыенцірамі варта кіравацца, каб ісці далей. Зносіны паміж літаратарамі Беларусі і Расіі сёння даволі актыўныя. Гэта зносіны з прадстаўнікамі літаратур шматлікіх народаў Расійскай Федэрацыі. Адметна, што ў розных рэгіёнах пісьменнікі пішуць як па-руску, так і на мовах сваіх народаў, пры гэтым узбагачаючы агульную культуру сваёй краіны. Некаторыя з творцаў вядомыя ў Беларусі. Некаторыя імёны мы прапануем адкрыць.**



**Рыма Ханінава, паэт, літаратуразнаўца, загадчык кафедры рускай літаратуры Калмыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта (г. Эліста):**

## «Цікавасць да брацкай літаратуры ніколі не знікае...»

**— Рыма Міхайлаўна, ваш бацька — вядомы калмыцкі, расійскі паэт, легендарны беларускі партызан Міхаіл Хонінаў вельмі шмат зрабіў для прапаганды беларускай літаратуры ў Калмыкіі...**

— Так, мой бацька пераклаў і выдаў па-калмыцку кнігу вершаў Янкі Купалы. Ён перакладаў і творы іншых беларускіх паэтаў... Шмат пісаў пра Беларусь. Ёсць у яго паэма пра Хатынь...

Сёння няма адзінага літаратурнага працэсу, як раней. Увага да беларускай літаратуры ў расійскай аўдыторыі, зразумела, носіць выбарачны характар. Гэта натуральны працэс, ён мае пэўныя амплітуды цікавасці да брацкай літаратуры. Але ніколі не знікае. Гэта залежыць, канечне, ад узроставага ўзроўню сённяшняга чытача, ад таго, каго і што прыцягвае ў творах беларускіх пісьменнікаў. Для старэйшага пакалення, выхаванага на такой літаратуры, гэта найперш веданне класікі, літаратуры савецкага перыяду. Для малодшага пакалення, хутчэй за ўсё, папулярныя аўтары. Зараз, відаць, гэта творчасць Святланы Алексіевіч, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

**— А вашы асабістыя зацікаўленні... Да чаго і да каго скіроўваюцца?**

— У нас існуе сямейная традыцыя прывязанасці да беларускага мастацкага свету. У свой час як філолаг-студэнт я вывучала курс «Літаратура народаў СССР». У мяне беларуская тэма прысутнічае ў апавяданнях з цыкла «Ваенныя паданні». Як літаратуразнаўца я займаюся рускай і калмыцкай літаратурай, але хацелася б вывучаць цяпер яшчэ і беларускую літаратуру. Сябрую з вядомай паэтэсай і перакладчыцай Таццянай Сівец. Мы перакладаем вершы адна другой...

**— А што ў памяці з беларускай класікі?**

— І не толькі ў памяці, а яшчэ і пастаянна перад вачыма, у сённяшняй свядомасці — такія імёны, як Францыск Скарына, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Іван Шамякін, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Аркадзь Куляшоў... З некаторымі з іх і быў знаёмы мой бацька, перакладаў іх творы, прапагандаваў іх здабыткі ў калмыцкай нацыянальнай прасторы. Думаю, што для нас, сучаснікаў, важна працягваць гэты дыялог культур, дыялог дружбы народаў у поліэтнічнай прасторы.



**Валерый Казакоў, паэт, празаік (г. Масква):**

## «Чытач сам вылучыць прыярытэты...»

**— Валерый Мікалаевіч, у якім фармаце, на ваш погляд, прысутнічае беларуская літаратура ў Расіі?**

— Сёння ўжо цяжка і беларускага, і рускага, расійскага чытача аднесці да разраду масавых чытачоў. Так, літаратура недзе прысутнічае, але хутчэй як фон паўсядзённасці, як нейкі дадатак да гаджэтаў, хаця і ў камп'ютары можна знайсці і прачытаць шмат добрых і патрэбных кніг.

Для Расіі чытаючай няма межаў чытання. І беларускія кнігі — як класікаў, так і сучаснікаў, — складаюць адзіную інтэлектуальную і інфармацыйную прастору прасунутых людзей. Можна па старой звычцы пералічыць вядомыя імёны і паставіць кропку ў гэтым пытанні. Але я ўтрымаюся. Чытач усё вызначыць і вылучыць прыярытэты.

**— Да чаго ўсё ж у беларускім літпрацэсе прыцягнутая ваша ўвага?**

— Не толькі размова пра мае зацікаўленні... Я і сам у некаторай ступені ўдзельнік гэтага літпрацэсу. З'яўляюся яго часткай. Складаны ідзе працэс, абцяжараны пакутлівымі пошукамі і набыццём нацыянальнай самаідэнтычнасці і выратаваннем роднай мовы. Увогуле, кароткімі ацэнкамі тут не абыдзешся...

**— Літаратурныя традыцыі, класіка... Іх свята для вас відавочнае?**

— Класіка, класіка! Як мы да яе прывязаныя і як бы нам праз некаторы час хацелася папоўніць шэрагі класікаў, шарэнгі гэтай Божай кагорты...

З беларускай класікай таксама складана, калі быць сумленнымі і шчырымі. Усё залежыць ад таго, ад якой печкі мы кінемся ў танцы. Калі адмераем гісторыю Беларусі з васямнаццатага года мінулага стагоддзя, то гэта адзін рад класікаў... Калі пачнём з часін Полацкага княства і Турава, то ўжо другі... У маім разуменні, нашай гісторыі паўтары тысячы гадоў... І шэрагі класікаў пачынаюцца ад Кірылы Тураўскага, павучаннäў Ефрасінні Полацкай... І так да Васіля Быкава, да Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Янкі Маўра, Уладзіміра Караткевіча і Анатоля Сыса. Сюды я адношу і польскамоўнага Адама Міцкевіча. А таксама — Багушэвіча, Будная. І шмат яшчэ каго. За Міцкевіча трэба змагацца, нягледзячы на ўсе спрэчкі вакол гэтага вялікага польскага паэта. Яго творчасць арганічная, яна з'яўляецца складнікам нашай нацыянальнай, самабытнай культуры і гісторыі.



**Рэнат Харыс, народны паэт Татарстана (г. Казань):**

## «Чакаем Дзён беларускай літаратуры ў Татарстане...»

**— Ці вядома сённяшнім татарскім пісьменнікам і ўвогуле чытачам Татарстана беларуская літаратура?**

— Дзякуючы асабліва ўважлівым адносінам часопіса «Наш современник» і «Литературной газеты» беларуская літаратура ў жыцці расійскіх чытачоў, канечне ж, прысутнічае. Але не так, як было ў савецкія часы. Не так, як бы хацелася...

**— Чаго ў такім разе не стае?**

— Не хапае асабістых стасункаў паміж пісьменнікамі дзвюх брацкіх краін, паміж пісьменнікамі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. А такія кантакты проста так не фарміруюцца. Дзеля іх развіцця патрэбны адмысловыя ўмовы. У ранейшыя часы яны якраз і былі: рэспублікі, гарады і вобласці праводзілі Дні літаратуры і мастацтва брацкіх народаў з удзелам пісьменнікаў, запрашалі паэтаў, празаікаў, крытыкаў на розныя святы. І на ўрачыстасці ў сувязі з юбілеямі класікаў — таксама.

**— Сапраўды, варта зазірнуць у біяграфію Купалы ці Коласа, як знойдзеш вершы, артыкулы, прамовы ў звязку з юбілеямі нацыянальных класікаў...**

— Гэта спрыяе ўсталяванню асабістых кантактаў паміж літаратарамі. У выніку з'яўляліся пераклады вершаў, апавяданняў, раманаў. Выдаваліся кнігі, між іншым, лепшыя. Бо перакладчыкі ўбачавідзі бачылі сапраўднае і сапраўдных... Такім чынам, народы «размаўлялі» паміж сабою, давяралі адзін другому свае таямніцы, надзеі, якія пісьменніку з чужога нацыянальнага свету не так лёгка падгледзець.

**— І зараз з якімі імёнамі вы асацыюеце беларускую літаратуру?**

— Я за ўсю Расію сказаць не магу, але ў нас, у Татарстане, беларуская літаратура атаясамляецца найперш з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Янка Купала ў час Вялікай Айчыннай вайны жыў у Татарстане. Адна з вуліц Казані носіць яго імя. Мы ведаем таксама творчасць Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Рыгора Барадуліна і, канечне ж, выдатную прозу Васіля Быкава. Што датычыць мяне асабіста, то магу паведаміць, што з задавальненнем перакладаў творы Францішка Багушэвіча, Міколы Мятліцкага, Рыгора Барадуліна, Міколы Чарняўскага, Леаніда Галубовіча, Змітрака Марозава, Юрыя Сапажкова і Сяргея Трахімёнка.



**Любоў Турбіна, паэт, празаік, літаратуразнаўца (г. Масква):**

## «Мне ўдаецца піярыць беларускую літаратуру ў сецявым часопісе...»

**— Любоў Мікалаеўна, беларуская літаратура ў Расіі... Наколькі яна прысутнічае сёння ў полі зроку чытачоў Расіі?**

— Наколькі яна прысутнічае ва ўсёй вялікай Расіі, сказаць адразу цяжка... Гэта пытанне да кнігавыдаўцоў і гандляроў. Са свайго боку магу зазначыць, што мне ўдалося наладзіць сувязі з сецявым выданнем — інтэрнэт-часопісам «Камертон». Там ужо надрукаваны апавяданне Андрэя Федарэнкі, артыкул Міколы Мікуліча да юбілею Максіма Танка, апавяданні Алеся Кажадуба...

**— Ён жыве і працуе ў Маскве...**

— Але, як мне падаецца, па менталітэце ён быў і застаецца беларускім пісьменнікам... Ды і Валерый Ліпневіч, які жыве ў Падмаскоўі, пачаўшы творчы шлях у Беларусі, застаецца перакладчыкам беларускай паэзіі і прозы. Ён таксама прадстаўлены ў «Камертоне». Ведаю, што гэтае інтэрнэт-«выданне» чытаюць і ва Ульянаўску, і ў Омску. Як бачыце, геаграфія бяскрайняя.

Яшчэ адной важнай дзялянкай, якая знаёміць рускага чытача з беларускім мастацкім светам, з'яўляецца часопіс «Литературная учеба». Вось-вось павінен выйсці нумар з маімі перакладамі паэзіі Генадзя Бураўкіна. Раней надрукаваны пераклады вершаў Міхася Стральцова, Рыгора Барадуліна, Марыі Кобец. Апавяданне Андрэя Федарэнкі, эноы Алеся Разанава пераклаў Валерый Ліпневіч.

**— Вам як пісьменніку, даследчыку цікавы сённяшні літаратурны працэс у Беларусі?**

— Працэс, канечне, цікавы. Але не магу з Масквы ўважліва сачыць за ўсім. Сёння складанасці з атрыманнем папяровых версій часопісаў. Ды і выданняў паболышала. Спрацоўваюць асабістыя сувязі. Чакаю падказак ад мінскіх калег-літаратараў. Хацелася б, каб у Расіі болей шырока ведалі прозу, раманы Алега Ждана.

**— Якія імёны класікаў асацыіруюцца ў вас з беларускай нацыянальнай літаратурай найперш?**

— Максім Багдановіч, Янка Купала (асабліва драматургія), Максім Танк, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Міхась Стральцоў. Пра кожнага з іх я напісала артыкул. А пра Багдановіча і Брыля — нават не па адным. Усе гэтыя працы надрукаваны ў розных выданнях Інстытута сусветнай літаратуры.



**Лула Куні, заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса «Нана», член Саюза пісьменнікаў Чачэнскай Рэспублікі (г. Грозны):**

## «Вабнасць этнадушы»

— Мы ўзгадаваныя на савецкай літаратуры, якая прадстаўляла поўную палітру нацыянальных літаратур, сярод якіх беларуская па праве займала адно з вядучых месцаў. Яна павінна прысутнічаць на парытэтных пачатках з літаратурамі іншых народаў постсавецкай прасторы, калі мы мяркуем бачыць Расію ў рэчышчы традыцыйных культуралагічных і гуманістычных установак. Інакш нас усіх чакаюць непрадказальныя наступствы...

Калі ж казаць пра шырокую чытацкую аўдыторыю, то рэзкі ўсплёск цікавасці цяперашняга маладога расійскага чытача да беларускай літаратуры цалкам чаканы і апраўданы пасля прысуджэння Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

**— Вам як пісьменніку, даследчыку цікавы сённяшні літаратурны працэс у Беларусі?**

— У кожнага з нас свой досвед спазнання айкумены. Не буду арыгінальным, калі скажу, што ў гэтым плане шмат дае літаратура. У мяне засталося ўстойлівае адчуванне ад беларускай літаратуры ў т. зв. «даваенную пару» (да падзей на чачэнскай зямлі ў перыяд з 1994 па 2000-я гг.) як літаратуры прыярытэтнасці духу, якая стаіць трохі асабняком...

Гэта можа расцэньвацца як прыватнае меркаванне, але мяне заўсёды прыцягваў у ёй нейкі апантаны стаіцызм як адлюстраванне глыбінных вод этнадушы нацыі. Аднавіла я сваё знаёмства з беларускай літаратурай толькі тры-чатыры гады таму, калі нейкім чынам наладзілася жыццё ў нашай рэспубліцы.

Для народа нохчы беларуская зямля святая: у складзе брэсцкага гарнізона сыны чачэнскага народа гераічна ваявалі, абараняючы Брэсцкую цытадэль... Менавіта на беларускай зямлі — прыклад народнага подзвігу — быў закладзены падмурак будучай Перамогі ў Вялікай Айчыннай. Народ Беларусі заплаціў неймаверна высокі кошт... Гэты боль незабытны... Адчуванне датычнасці да балявых кропак гістарычнай памяці беларускага народа і стала сёння для многіх меркай стаўлення і да яго самога, і да беларускай літаратуры як цэнтра яго духоўных арыенціраў.

**— Якія імёны класікаў асацыююцца ў вас з нацыянальнай беларускай літаратурай?**

— Францыск Скарына (як даніна майму юнацкаму захапленню ўсходнеславянскай асветніцкай думкай), Янка Купала, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў. І, вядома ж, Святлана Алексіевіч. Творчасць кожнага з іх высвятляе вызначаную грань ментальнасці нацыі, стаўшы своеасаблівым духоўным летапісам беларускага народа... Думаю, са мной пагодзіцца многія: беларуская літаратура даўно выйшла за межы асабліва нацыянальнай, стаўшы — і па ўзроўні майстэрства лепшых сваіх прадстаўнікоў, і па глыбіні падыманых пластоў, і па ступені захавання ў першапачатковай чысціні агульначалавечых каштоўнасцяў — на адну планку з лепшымі сусветнымі ўзорамі. Яна стала нашым агульным здабыткам.

**Пытанні задаваў Сяргей ШЫЧКО**

**Шмат тэрыторый убірае ў сябе геаграфічная карта Расіі. Рэдакцыя «ЛіМа» прадстаўляе ўвазе чытачоў вершы паэтаў з Падмаскоўя, Рэспублікі Комі, Рэспублікі Калмыкія, Рэспублікі Хакасія, Нанайскага раёна Хабараўскага краю.**

**Эрдні ЭЛЬДЫШАЎ**

## Палын

*З усіх зямных раслін ён мне мілейшы,
Палын — у стэпе горкая трава.
Ягоны пах — жаданейшы, раднейшы:
Адчую — і хмялее галава.*

*Насычаны паветрам стэпу ён,
Спаўна ўвабраў зямлі жывыя сокі…
Непараўнальны смак яго здавён.
Люблю палынны водар я глыбокі.*

*Люблю ягоны дзіўны подых весні,
Ягоны шолах чуецца здаля.
Ёсць шмат раслін зямных, нябесных,
Ды толькі палыну бясконца рады я.*

## Слова і меч

*Батыру пагражае востры меч:
— Галовачку тваю знясу я з плеч!
Батыр жа не здурнеў
і не аслаб,
Ён не падставіць галаву,
як раб,
Меч грозны адаб'е ён мімаходзь.
Прад словам жа — бяссільны,
як дзіця.
Мацнейшае за меч яно стакроць,
Таму галовы з дужых плеч ляцяць.*

## Сябру

*Калі заўладае маркота табой
І ты завітаеш аднойчы ў мой дом,
Не бойся парушыць мой звычны
спакой, —
Цябе тут чакае сардэчны прыём.*

*Ты мне давяраеш… А раптам зусім
Са мной не падзелішся горам сваім,
Пакута ахопіць балюча мяне,
Што ты па маёй мне не верыш віне.*

## У малітоўны час

*У малітоўны найсвятлісты час,
Каб мець благаслаўленне Пана Бога,
Маліцеся, жадаючы штораз
Сям'і дабра, не крыўдзячы нікога.*

*Маліцеся за тых, хто адышоў,
За тых, хто ў вашай памяці вячыстай,
Іх твары ажыўляючы ізноў
Высокаю і шчыраю малітвай.*

*Укленчыўшы прад вечным
Богам Старцам,
Прасіце блаславення беззаганна,
Не трэба слоў узвышаных баяцца
У малітоўны час, у момант даравання.*

**З калмыцкай.
Пераклад Міхася ПАЗНЯКОВА**

**Ганна ХОДЖЭР**

## Мой мячык

*Пакан, пакан, мой мячык,
Падскоквае ды скача.
Р-раз — птушкай да акенца,
У неба мкнецца-мкнецца.*

*Чармок-чармок — мільгае,
Стамлёнасці не знае
І рвецца са двара:
Гульня — яго пара.*

*Дай пра мяне памарыць
Сяброўцы круглатварай.
Мяч з'явіцца ў акне —
Яе не праміне.*

*Як сэрца-мячык б'ецца,
Ці плача, ці смяецца!
Чармок-чармок — шывок.
Мне на душу ён лёг.*

## Сэрца заўжды кахае

*Амур — і шыр, і глыбіня.
Не, лёд празрысты не растане,
Ніколі сэрца не суняць —
Кахаць яно не перастане.*

*Амур — і шыр, і глыбіня.
Ды нат калі бязводны будзе,
Ён пра каханне ані дня
Ўспамінаў нашых не астудзіць.*

*За лістападам лістапад,
Ды і гадоў прайшло нямала.
А сэрца… Нават не наўгад —
Яно цябе заўжды кахала.*

**З нанайскай. Пераклад Яны ЯВІЧ**

**Іван КУРАТАЎ**

## Цемра

*Зямлю накрыла чорная ноч:
Парадак свой у яе здаўна.
І людзі цёмныя, быццам ноч,
Ды тут людзей не шукай дарма.*

*У белых строях тут мала хто —
Схаваны пад ценямі кажаноў…
Да ранку не вытрымаю нізашто —
Вампір усмактаўся ў белае зноў.*

*Не можа ў цемры жыць чалавек:
Узыдзе сонца — і вось ён, прастор!
Дыхаць вам будзе лёгка ў свой век,
Будзе вам вольна — ад сонца да зор.*

*Выйдзе сонца і тут, няйнакш.
Росам нябесным іззяць, і бліщчэць.
Бачу нарэшце я светлы знак.
Веру, што іх будзе многа яшчэ!*

**З комі. Пераклад Яны ЯВІЧ**

*Так лёгка крылы паламаць —
Натоўп чакае іх падзення.*

*Ды не ўпадзе на сэрца цень —
У небе, што душа скарыла,
Я бачу ўсіх, хто паляцеў,
І пазнаю іх — легкакрылых.*

**З рускай. Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

**Паін САА (Аляксандр БАІНАЎ)**

***

*Віна адзін глыток,
Сябры мае, наліце!
Хай хмель заб'е мне ў скронь,
Ды жартам не журыцеся.
Я ведаю — жыццё
Не трызна, ды й не свята.
Вятроў ліхіх выццё —
Нам за грахі расплата.
Мы ў свет прыйшлі ў слязах,
Выпрабаваннях целу,
Жыццёвы светлы шлях
Здаецца нам здранцвелым.
Лістота мы ўсяго
Пад кронаю шырокай.
Закруціць смерч яго —
І адляціць далёка.
Сябры, праміж вятроў,
Кахаючы жанчыну,
Давайце ж келіх зноў
З усмешкаю мы ўздымем.*

**Сяргей МАТВЕЕЎ**

***

*І цела цёплае калісьці надакучыць.
Галінка ціха стукне у акно.
Бо цела дух паднебны марна мучыць.
Спагада Божая, не дай пабачыць дно!*



**Рыма ХАНІНАВА**

## Бацькоўскі запавет

*Завет бацькоўскі непарушны:
Заўжды будзь моцны і трывай!
Бы палыновы куст, што з крушняў
Расце… Тапчы яго, зрывай —
Ні коні і ні людзі здужаць
Палын дарожны не змаглі.
Я чую голас яго мужны
У кожным подыху зямлі,
Мне песня палыну і лёсу —
Нібы Паэзія сама…
Цярпенне — дар нябёс дзівосны,
І лепей за яго — няма!*

## Паэтам

*Міхаілу Хонінаву*

*Яны сыходзяць — па адным —
У свет далёкі, зорны вырай.
Вядомы ім і смак віны,
І за плячыма шоргат крылаў.*

*Не думаць пра сябе і свой
Жыццёвы шлях таптаць — у неба.
Нязменны вырак — характво
Штодня агортваць словам гнеўным.*

*Цана за шчырасць іх — падман
І неспатольныя надзеі.*

*Вясна такая, як спакон бывала,
Багата год знаёмы з ёю я.
І слова лёгкае мяне не ратавала, —
Жыццё давер губляе спакваля.*

*Не ведаю, ў журбе ці ў шчасці Неба,
Багаты Космас ці збяднеў нутром?
Чакаць гасцей ці зачыняцца трэба?
Як спалены пад сонцам стэп — мой дом.*

*Іголкаю нябачнай сэрца коле.
І невымоўная пачуццяў глыбіня…
Дзіця сумневу ува мне сваволіць,
Чаканне тоне ў цёмных водах дня.*

***

*О мужчына, твая дачка
Заглядае мне прагна ў вочы.
І міжволі мая рука
Ахінае стан гібкі дзявочы.*

*Ты ў калысцы яе люляў
І кудзеркі пяшчотна гладзіў.
Што зрабіць, каб ты даравў,
Да сябе каб яе прынадзіў?..*

*О мужчына, твая дачка
Заглядае мне прагна ў вочы.
Быццам плёскатам ціхім рака,
Шэпча словы кахання ўночы.*

*Валасоў маіх буйны віхор
Улагоджвае пальцамі смела.
«Толькі мой!» — адлятае да зор,
Прыхінаючы пругкае цела.*

*О мужчына, і мы — сям'я,
Чую плач у калысці ледзь чутны.
О мужчына, — будучы — я
Чую рэўнасць у жыцці наступным, —*

*І шкадую…*

**З удмурцкай.
Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

**Галіна КАЗАЧЫНАВА**

***

*О, Вялікі і шоўкавы шлях!
Велізарныя стэпы, барханы.
Рэк багацце і гор, караваны
Згаладнелых вярблюдаў, бураны.
Небяспечныя ночы, сцяжынкі
І знямогі ўвачччу парушынкі…
О душа,
кшталту шоўкавай ніткі...*

*О, Вялікі і шоўкавы шлях!
Тэнгры-Неба* і Творцы-Чаяны**!
Купал юртаў, качэўнікаў станы,
З мурашынаю таліяй дзевы
І шаўковыя ўзоры адзенняў,
Звон маністаў і бісеру нізкі.
О душа,
кшталту шоўкавай ніткі...
О, Вялікі і шоўкавы шлях!
Бласлаў, зямля Сібер***, з зачынам,
Караванны мой шлях за плячыма,
Енісею адкланяйся шчыра,
І Цепсею-гары вершалінам святым,
І Айранам**** курганы свае асвяці!
О душа,
кшталту шоўкавай ніткі...*

* Тэнгры-неба — адначасова як бачны феномен і як абагаўлёная сутнасць.
** Чаяны — у хакаскай міфалогіі сем ці дзевяць творцаў створанага свету.
*** Сібер — Сібір.
**** Айран — традыцыйны кісламалочны напой у хакаскай кухні.

**Андрэй ПЕРМЯКОЎ**

## Уздоўж

*Паглядзі наўкол: гэта свет.
А ў свету ёсць небакрай.
Там жыве ўдмурцкі мядзведзь гандыр,
там вёска завецца спрадвек Гандырвай.*

*Вялікая там зямля, а вады яны амаль
не маюць.
Там да кожнага з акіянаў лясы, лясы.
Пра вугальчыкі там кажуць
не «тлеюць», а «шáюць».
А спытай, колькі часу, скажуць
«паўгадзіны прайсці».*

*За гарою ніхто не жыве, а далей
жывуць татары.
Рускія таксама хадзілі, у зямлі
калупалі дзіркі.
Залатая і дробная рэчка
Вялікая Ківара —
залатая навек мяжа заснулай рыбы.*

*Дарэчы, час на мове іх называецца «дыр».
Гэта правільная назва для часу і мовы.
Я кажу табе праўду: тут
сканчаецца Рым.
Я не ведаю, праўда, пакуль,
дзе пачынаецца слова.*

***

*Я пішу пра лыжачку ў шклянцы.
Пра цягнік з Масквы на Варкуту.
Пра цуд у Галілейскай Кане.
Пра пустэчу знoўку пра маю.*

*Пра самае-самае простае
Пра тое, пра што мільёны разоў.
Пра лязо бліскучае, гострае
Адзін вершык, пару радкоў як ізноў.*

*Каб толькі прасцей, прасцей,
прасцей, прасцей, —
Так снег ляціць, бы мятлушка іграе.
Сусед спявае пра свой свет.
І ніхто ў яго не памірае.*

**З рускай. Пераклад Адама ШОСТАКА**

# Добры Палявік,

## або Эцюд з Айгі пры чытанні яго «Поле — Расія»

**Вячаслаў АР-СЯРГІ,**
**народны пісьменнік Удмуртыі**



Нярэдка людзі пытаюць мяне пра Айгі: а які ён быў? Звычайна гэтае пытанне задаюць асабліва тыя, хто воляй няяснасцей Лёсу прайшоў міма гэтай унікальнай з'явы — свету Айгі. І здарылася гэта ў іх, як гаворыцца, не знарок і без задумы, а так — як атрымалася. Таму што божая светабудова бязмежная, як і светастварэнне. І да ўсяго паспець у кароценькім чалавечым жыцці ну ніяк не атрымліваецца. Дык, пэўна, і не трэба… Я ўпэўнены, што час без Айгі ў гэтых людзей мацаваўся іншымі паэтамі, не менш бліскучымі, а можа, і вышэйшымі за Айгі… Паэзія ж таксама без межаў: як імёнамі паэтаў, так і іх вершамі, што з'яўляюцца, дзякуй богу, няспынна. А вось мне выпала быць увахожым (гэтая словаформа ў дадзеным выпадку найбольш пасуе) у свет паэзіі Генадзя Мікалаевіча Айгі. Бо я ўвайшоў туды менавіта па запрашэнні самога Майстра.

Помніцца… Да гэтага я не быў у маскоўскай кватэрцы Генадзя Мікалаевіча, гутаркі нашы абмяжоўваліся доўгімі тэлефоннымі размовамі, рэдкімі лістамі і г. д. Дарэчы, наша першая тэлефонная размова, спачатку як знаёмства, адбылася сапраўды фатальным чынам: я патэлефанаваў па нейкай справе ў Чабаксары майму даўняму сябру Атнеру Хузангаю — на кватэру, а ўзяў трубку Айгі. Ён, як я зразумеў, у той раз, калі прыехаў у Чабаксары, спыніўся ў гасцінным доме Хузангаяў. Гаспадароў у дадзены момант не аказалася побач, і Айгі, які адзінока працаваў у іх, узяў трубку, не ведаючы, што наша гутарка праляціць для мяне як імгненне, хоць і цягнулася больш за гадзіну (пра гэта я даведаўся толькі потым, калі аплачваў тэлефонныя разлікі, і зноў здзівіўся). Гэта было, помніцца мне, у пачатку цяперашняга стагоддзя… А з той пары шмат вады сплыло, паўсюль, дзе ёй патрэбна плыць.

Такім чынам, знаходзячыся тады ў Маскве, я патэлефанаваў Генадзю Мікалаевічу і ўважліва запісаў маршрут праезду да яго. Гэты блакнот і зараз у мяне, з аркушамі, дзе запісаны адрас Генадзя Айгі — хутка, маларазумела для асобы недасведчанай. Айгі запрашаў мяне сустрэцца ў яго дома. Помню і цяпер гук прыглушанага, але чыстага голасу Генадзя Айгі. Шматразова ён паўтараў свае словы скрозь скрыгат тэлефоннай мембраны (я тэлефанаваў з таксафона станцыі метро «Барыкадная»). Час панавання мабільных тэлефонаў яшчэ не наступіў… Цяпер гэта выглядае дзіўна, але так было.

— Славі, слухай уважліва і матай на свой удмурцкі вус (яго словы расцягваюцца ў лёгкай млявасці пасляпрацоўнага часу; ён устаў з-за стала і апрануўся на шпацыр пасля вялікай працы — з яго слоў). Вам трэба сесці з Беларускага (у гуку «р» — невялікае грасіраванне) вакзала на электрычку ў напрамку Галіцына. Ехаць нядоўга. Пасля 5-6 прыпынкаў, пасля Кунцава, сыдзеце ў Рабочым пасёлку — ужо ў мяне. Станьце спінай да Масквы, і ідзіце. Перайдзіце праз навясны мост, затым — налева… Уніз — з моста. Па скверыку — сцежка, перайсці дарогу, а там і вуліца Грышына, дзе мой дом… Пяціпавярховы, але, на жаль, далёка не ўвесь мой. Падыдзіце да другога пад'езда. Я сустрэну. Чакаю вас, Вячаслаў… Што? А, магазін з тортам у нас побач… У іх часам і неблагія бываюць торты…

І вось праз пару з лішнім гадзін я ўжо сядзеў і піў гарачы чай у Айгі. Наліты ён быў добрай рукой яго Галіны Барысаўны. Генадзь Айгі аказаўся невысокім, неатлетычнага складу старым — клапатлівым гаспадаром дома. На ім была мехавая душагрэйка, на нагах — штосьці вялікае і цёплае. Сваю злёгку кучаравую бародку ён час ад часу хутка папраўляў актыўнай на жэстыкуляцыі рукой і пры гэтым усміхаўся — светла і цёпла, з добрай хітрынкай у чувашскім раскосе ўважлівых вачэй. Асабліва падчас свайго страшнага аповеду пра тое, што ўчора на яго ледзь не звалілася перанагружаная кніжная паліца, — цудам застаўся жывы… Ей-Пра! Пасля стакана чаю мне, ужо сагрэтаму пасля лютаўскіх вуліц Масквы, налілі бакал вінаграднага віна — на абед, што складаўся са стравы просценькай, але сытнай і смачнай, тыпу заціркі, як у нас у Прыкам'е называюць гэта. Упікаю зараз сябе: так і намогся спытаць назву той стравы ў самой майстрыхі, што частавала нас, — гаспадыні. А можа, страва была звычайная, але з'елася надзвычайна — пад акампанемент лагоднага журчання мовы самога Айгі. А потым мы селі ў кутку рабочага пакоя Айгі (о божа, колькі там было дзелавых папер у папках і без — незлічоны хаос) і акунуліся ў рэкі нашых размоў — за Жыццё і за Паэзію. Менавіта так, у размовах з Айгі, я зразумеў: немагчыма было проста пачаць ці падтрымаць яго, а толькі — акунуцца. Як у пранізлівую бездань… Яго маналагічная рака з размытымі берагамі дыялогаў была сапраўды вясновай — паводкай. Гэта зачароўвала. Гэта захоплівала. Гэта закалыхвала душу. І не адштурхоўвала. Таму што Айгі тэмы сваіх размоў узяў на вядомую толькі яму аснову — незвычайна зладжаную ў сваёй завіхронасці. Літаральна так, як мая незабыўная маці вязала рукавіцу і шкарпэтку і пры гэтым расказвала сялянскія навіны — падрабязна і смачна. Усё працавала ў Айгі на аснову менавіта паэтычнага ўспрымання ўсяго, але пры гэтым ён не дыктаваў выключна сваё меркаванне, а мог уважліва выслухаць і суразмоўцу. Праўда, яго пункт погляду мала зрушваўся са сваіх пазіцый, у большасці выпадкаў заставаўся непарушным, але акт увагі да чужых слоў выконваўся Генадзем Мікалаевічам з падкупляльным прыродным тактам.

Айгі нарадзіўся 21 жніўня 1934 года ў вёсцы Шаймурзіно Батыраўскага раёна Чувашыі. Памёр 21 лютага 2006 года ў Маскве. Падчас нашай першай маскоўскай сустрэчы Айгі быў энергічны, іранічны, рухавы, невераготна цікаўны да ўсяго навакольнага. Такім жа, з выгляду нясумным, я бачыў яго і потым. Нямала выпала яму і горкага, і крыўднага…

І, мабыць, не ад вясёлых думак нярэдка хмурыўся Айгі. Маўчаў. І яго маўчанне было багацейшым за бяскрайнія размовы. Ён размаўляў з Маўчаннем моўчкі — з поўным узаемаразуменнем.

Айгі выдаў нямала кніг, яго крыху ведалі і ў Расіі, а шмат — за мяжой. І пры тым, што да сваёй першай кнігі ўласна рускіх вершаў ён ішоў у нас доўга, вельмі доўга (кніга выдана ў 1991 годзе) — да крыві зраніўшы ногі, нацершы нямала мазалёў і на целе, і на душы… Чытаючы кнігі Айгі, нават проста праводзячы рукой па старонках, можна адчуць гэтыя мазалі і сляды нязграбна залечаных часам ран — толькі не трэба спяшацца… І пальцы вадзіць не абы-як, а з натхнення ўжо і асабістай душы — без гэтага нельга…

Пра Айгі шмат напісана. У кнігах, часопісах, інтэрнэце, але калі мяне, хто энную колькасць часу правёў з ім за сяброўскім сталом, пытаюцца, якім жа ў жыцці быў Айгі, то не адразу знаходжу адказ. А, зрэшты, стойце, мне здаецца, што Айгі ўжо і сам суфліруе мне адказ (у іншы раз ён можа быць і іншым — Майстар любіў кульбіты). Ці я яго такім вось чую, свой адказ:

— Як бы я ўявіў свайго Айгі, каб паказаць яго вам… Я бачу яго жывым увасабленнем Духу вялікага жыццёвага Поля. Такім, якім яго ведаюць у многіх, напрыклад славянскіх, міфах і паданнях, казках і былічках, дзе ён выступае старым Палевіком. Так, без гарадскога чарадзейства, асабліва ж без вясковай магіі ў свеце Айгі нічога не абыходзіцца. Айгі так любіў Поле, як субстанцыю духу-працаўніка, што і сам стаў яго боствам ці бажком. Ён нават знешне, асабліва ў яго апошнія гады, быў падобны менавіта на добрага Палевіка ці на філосафа-пасечніка, які толькі на дзянёк заехаў у горад, — адно другому не перашкаджае. Яго смела можна было маляваць (што часткова і рабілі некаторыя мастакі) такім хітраватым казачным мужычком з узлахмачанымі валасамі і бародкай — гаваруном на шэрым кані, які павольна спяшаецца на зімовую гульбу да свайго неразлучнага сябра Кола Бруньоны. Ён быў той, якога ў чувашскіх краях нярэдка і цяпер называюць то Чыге-картам, то Чыге-хурсухалам, а то і Сір-іе… І ўсё гэта — недалёка ад Палевіка. Няма цяпер Айгі без міфа, бо ён і сам стварыў сваю міфалогію. І ўзрастала яна пад яго ўважлівай рукой — як хлебны злак. І зберагаў ён пасевы свае заўзята і чуйна — не даваў іх растаптаць ні дурням, ні злым вятрам з чужымі трактарамі. Як удавалася… Так і сам Айгі стаў міфам — прыцягальным і патрэбным, а потым і неабходным. Пра тое, што вялікія паэты — не паміраюць, яны адыходзяць у Поле сваёй краіны…

**Пераклала з рускай**
**Наталля СВЯТЛОВА**

**У Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца да выхаду кніга паэзіі Вячаслава Ар-Сяргі ў перакладах паэта Віктара Гардзея «Ранішні вецер у акне». Некаторыя вершы з яе прапануем чытачам «ЛіМа».**

### Паветраны змей

*Раскіну рукі і — лячу*
*над сіняю ракой.*

*Раскіну рукі і — лячу*
*над бураю ракой.*

*Раскіну рукі і — лячу*
*над белай муравой.*

*Раскіну рукі і — лячу*
*над жоўтаю гарой.*

*Астыла сонца, плывучы, —*
*Касмічны холад уначы.*

*...Паветраны там змей*
*Ляціць над нашай хатай,*
*І пальцы чуйныя мацней*
*Сціскаюць шнур напяты.*

***

*Даруй за дождж, які з начы*
*Цярусіць гэтак нудна*
*За акном.*
*Даруй, што мною згублены ключы,*
*І зараз не адчыніш*
*Наш астылы дом.*

*Знікаю я — хто змог бы памагчы*
*Мне ў гэты час*
*Зазубраным клінком?*

*Даруй, што я, замучаны нудой,*
*Дажджу, як сябру, падаю руку:*
*Нябёсы сочацца святой вадой,*
*І я ў купелі той на скразняку.*

### Настольная лямпа мая

*Спазналі журбы і адчаю,*
*Не зведалі славы ніяк.*
*Табе гэты верш прысвячаю,*
*Настольная лямпа мая.*

*Аблезлая фарба плафона,*
*Закураны ўжо камінок.*
*Няма ў табе сумнага фона,*
*Настольная лямпа-дружок.*

*У часе, а будзе такое,*
*Забудзецца ўсё, што было,*
*Няхай яно льецца ў пакоі,*
*Настольнай лямпы святло.*

### У райскім садзе

*А ў кветніку прыгожы кожны кут,*
*І кветак шмат — нічога акрамя,*
*І нават рададэндран тут*
*Крыху падобны на тваё імя.*

*Ёсць кветкі ў колер валасоў тваіх —*
*Ды не паказваю я сад чужым вачам.*
*Жыву цяпер я думамі пра іх,*
*Бывае, што даю і назвы сам.*

*Я думаю пра гэты райскі сад,*
*Дзе і надзея, і свая нуда.*
*Пяшчота вуснаў, рух, і ўсё так*
*неўпапад.*
*...Тут не расці, пакінь іх, лебяда.*

### Апаўночная фіеста

*Прачнулася заранкам,*
*Пакуль мы спалі ўсе, —*
*На кухні бразне кранам,*
*І кавы прынясе.*

*Навобмацак галюся —*
*Парэзы на шчацэ,*
*З сініцы падзіўлюся,*
*Што не ў тваёй руцэ.*

*Як журавель гулліва*
*Лунае ля нябёс!*
*За кудзер чэпіш дзіва,*
*І горкі ўздых: не лёс.*

*А горад сіння хмуры,*
*І ў скрыньцы «соль» дрыжыць.*
*Пасля дажджоў і буры*
*Каханне не збяжыць.*

*Дай месца ім, нявеста,*
*Бо сцэнкі разнясу...*
*Апоўначы фіеста:*
*Фужэры, пугасу.*

**Імя Яўгена Анташкевіча — пісьменніка, кітаіста, даследчыка — стала шырока вядомым пасля выхаду раманаў «Харбін» і «33 аповеды пра кітайскага паліцэйскага паручніка Сарокіна», прысвечаных жыццю расійскіх эмігрантаў у Кітаі. Паколькі лёс герояў названых кніг немагчыма ўявіць у адрыве ад падзей Першай сусветнай вайны, пісьменнік пачаў сур'ёзна вывучаць і гэтую тэму. І як вынік — з'яўленне раманаў «Хроніка аднаго палка. 1915 год» і «У акопах. 1916 год». Натуральна, пісаць пра гэтую вайну і абмінуць увагай Беларусь, якую лінія фронту падзяліла на дзве часткі, немагчыма. У адным з інтэрв'ю Яўген Міхайлавіч, які нарадзіўся ў Расіі і жыве ў Маскве, казаў: «Першая сусветная вайна была вялікай трагедый для беларускага народа». У прапанаваным урыўку з кнігі «У акопах. 1916 год» распавядаецца пра абарону Смаргоні.**

**Яўген АНТАШКЕВІЧ**



# У акопах. 1916 год

*Урывак з рамана*

Сонца над Смаргонню свяціла ярка, і навокал было ціха.

Сашка расплюшчыў вочы.

Ён апрытомнеў, лежачы на спіне. Было мулка правай руцэ, і ён асцярожна зірнуў: яго рука ляжала на чыёйсьці галаве, мяркуючы па шэрай вопратцы — забітага немца. Сашка трохі адсунуўся і пачаў прыўставаць на локцях. Ён выцягнуўся ўпоперак траншэі, а побач знерухомелі астатнія: на спіне, на баку, з павыкручванымі нагамі і рукамі. Ва ўсіх былі расплюшчаныя вочы, і ўсе глядзелі, не мігаючы, як Сашку падалося, у адну кропку — кожны ў сваю. Раптам ён адчуў боль у правай назе і ўсё ўспомніў.

«Паранілі, сукі! — Ён яшчэ прыўзняўся, абапёрся спінай на высокую сценку і паглядзеў уверх — сонца няўмольна пякло проста над галавой і абдавала гарачынёй твар. — Спякотна сёння…»

Апошнія два тыдні вісела імжа, ішоў шэры халодны дождж, восеньскі, — і ўсё вакол здавалася прывідным. З самага ж ранку галаву пякло сонца — вось гэта было праўдай.

Сашка абапёрся рукамі і яшчэ падцягнуўся, пальцы слізгалі па вільготным пяску. На дне шырокай і глыбокай траншэі стаялі каламутныя жоўтыя лужыны. Правая нага балела.

Немец ляжаў тварам у лужыне, ранцам уверх. Сашка пачаў у думках абмацваць сябе: на ім нічога не было — перад тым, як рынуцца ў атаку, ён зняў з сябе ўсё, скінуў рэчмяшок і скатку, пакінуў толькі патронныя падсумкі і вінтоўку. Яшчэ ў яго быў бебут, які ён не так даўно выменяў, а калі папраўдзе, дык выпрасіў у Чацвертакова. Але цяпер бебута не было. Яшчэ была пляшка, ага, вось яна, цісне ў бок. Быў наручны гадзіннік. Ён паглядзеў — пад разбітае шкло панабіваўся пясок, напалову схаваўшы цыферблат, але тое, што ўжо каля паўдня, падказвала сонца, якое стаяла высока ў небе.

Калі пачуліся свісткі ўзводных — як толькі змоўк артылерыйскі агонь, — ён выскачыў і разам з усімі пабег да прабітага ў драцяной агароджы праходу. Цяпер на дне нямецкай траншэі ён успомніў, што пасля, як заскокваў на бруствер, ногі пачалі слізгаць па пясчаным пагорку і, як на санках, на сваіх доўгіх нагах ён з'ехаў уніз. Відаць, у той самы момант куля і трапіла яму ў правую нагу вышэй калена.

Ён зноў паглядзеў уверх, было ціха, нават спявалі птушкі.

Калі пачынала раўці і бухаць артылерыя, усё адно, што нямецкая, што свая, птушкі змаўкалі, а калі страляніна заканчвалася, яны зноў спявалі.

Сашка паспрабаваў сагнуць параненую нагу, і гэта ў яго атрымалася. У траншэю ён з'ехаў і таму ляжаў, калі страціў прытомнасць, на спіне, а не на жываце. Гэта яго ўратавала — ён зразумеў толькі цяпер. Калі б куля ўдарыла ў які іншы момант, ён упаў бы тварам у брудные месіва і пэўна б захлынуўся, як захлынуўся немец, што ляжаў побач. Сашка паглядзеў на яго. Не, немец, мяркуючы па ўсім, быў забіты раней — тады, калі падаў: з яго спіны тырчала рабрына з павыдзіранымі шматкамі шэрага сукна на самым абломку косткі. Свінец прашыў сэрца, немец памёр, калі падаў, а потым куля вырвала рабро.

Гэтая траншэя была на нейтральнай зямлі: як толькі падняліся рускія, амаль адразу ж са сваіх траншэй падняліся і немцы, і яны беглі насустрач адзін аднаму і сустрэліся, пераскокваючы праз гэтую траншэю.

Яго куля ўваткнулася ў нагу вышэй калена, а выйшла дзіўна — не ззаду, а збоку. Значыць, яна трапіла проста ў косць і зрыкашэціла ўбок. Калі б яна прайшла наскрозь, ён гэтай раны не адчуў бы, ва ўсякім разе, адразу, і бег бы ды скакаў, але яна зачапіла костку, таму ад болю ён страціў прытомнасць. Некалькі ўрокаў медыцыны, палявой хірургіі, даў доктар Курашвілі, таму Сашка быў дасведчаны.

Але галоўнае, што куля выйшла, невялікія расплывістыя плямы крыві на штанах засталіся ў двух месцах — там, дзе куля ўвайшла, і збоку, дзе выйшла.

Ён ухапіў за плечы немца і падцягнуў бліжэй. Дзіўна, але той быў у поўнай амуніцыі, побач ляжаў пікльхэльм у новым суконным, не зашмальцаваным чахле, каўнер курткі быў чысты, не зацухмолены, і ранец новы — менавіта гэты ранец і быў патрэбны. Сашка пачаў расшпільваць рамяні. Новыя засцежкі блішчэлі, нідзе не padрапаныя, без аніякай іржы. Ён адчыніў, запусціў у ранец руку і пачаў мацаць: трэба было спачатку намацаць індывідуальны пакет, а можа, і яшчэ што карыснае, не выцягваючы ўсяго наверх, бо начынне звалілася б у рэдкую гразь на дне траншэі — дажджоў навылівалася так многа, што пясок не паспеў увабраць.

Хоць траншэя была ўжо і не траншэя ў поўным сэнсе гэтага слова.

Казалі, што яе выкапалі рускія па паўночнай ускраіне Смаргоні яшчэ ўвесну, тады гэта была перадавая, калі ў сакавіку спрабавалі наступаць і адбілі ў немца некалькі дзясяткаў метраў. Але пазалягалі там, дзе іх накрылі цяжкія кулямёты, і пачалі акопвацца. Правільна акапацца не паспелі, былі выбітыя контратакай. Занялі немцы, і пачалі капаць далей, і выкапалі больш, і перакінулі бруствер на паўднёвы, рускі, бок. Праз некалькі сутак рускія ўначы ў самы час савы, каля чатырох гадзін раніцы, у густым тумане падпаўзлі і сцягнулі іх вінтоўкі і атакавалі, але, як ні дзіўна, адразу ж іх абстралялі нямецкія бамбамёты, і тады ўсе разбегліся — хто на поўнач, хто на поўдзень. Пасля некалькі месяцаў па абодва бакі ўсе сядзелі і толькі перакідваліся мінамі і гранатамі і ладзілі агароджы з дроту. Гэта можна было б лічыць гульнёй, калі б паміж гэтай траншэяй і перадавой рускіх з поўдня на поўнач не працякала мелкая, але надта ж непрыдатная рэчка, якая падзяляла яўрэйскае мястэчка Смаргонь на захад і ўсход. Рэчка называлася Оксная, і, відаць, яўрэі, якія жылі тут да вайны, так яе любілі, што гэткаму несамавітаму ручаёчку далі імя. Рускія назвалі б яе Пераплюйкай, а можа б, і зусім не называлі, равок і равок. Ля гарадскіх кладоў Окса набіралася звілістай і накіроўвалася на паўночны ўсход, злучалася з такой самай непрыгожай Гярвяткай, утварала балота і ўжо з балота ўпадала ў шырокую Вілію, на бліжэйшых берагах якой мясцовыя яўрэі так доўга і ў такой колькасці выраблялі скуры на амаль дзясятку дробных гарбарняў, што гнілы смурод гарбарнай вытворчасці не выветрыўся за той амаль што год, як сюды прыйшлі немцы і вайна.

Так гаварылі.

Тыя, хто так казаў, самі пэўна гэтага ведаць не маглі, бо рускія прыйшлі летась пасля другога верасня, пасля германскага прарыву пад Свянцянамі, калі нямецкія кавалерысты генерала фон Гарнье загадалі яўрэям, што насялялі Смаргонь, адтуль выбірацца.

Цяпер ні ад Смаргоні, ні ад больш чым дзясяткаў гарбарняў не засталося і следу. Толькі гледзячы на смецце, што валялася паміж рускай і нямецкай перадавымі лініямі, можна было здагадацца, што абодва бакі сышліся ў цэнтры гэтага гарадка, гэтага мястэчка. Артылерыя разбіла ўсё дашчэнту і выгладзіла так, быццам па гарадку правялі даланёю, зараўноўваючы колішнія дамы, а цяпер ужо толькі бітую цэглу і абгарэлыя бярвенні і дошкі. Зрэшты, бярвенняў і дошак таксама амаль не засталося — усё выкарысталі на тое, каб абсталяваць бліндажы, траншэі і акопы. Таму гэтая траншэя хоць і была шырокай і глыбокай, але разбітай і з абваленымі сценкамі.

Колькі разоў на ёй сыходзіліся і рускія, і немцы, столькі разоў яе накрывала ці іхняя, ці свая акопная артылерыя і ператварыла ў ланцуг варонак. Толькі ў некаторых месцах захаваліся больш ці менш роўныя сценкі, тут Сашка і апынуўся.

Як добра, што немец паваліўся мордай уніз, усё ў ягоным ранцы засталося сухое і цэлае, і было ўсяго многа. Калі Сашка выцягнуў адзін за адным тры індывідуальныя пакеты, ён нават падумаў, што немец зусім новенькі, ці што, толькі-толькі на фронце?

Было незразумела.

Пальцы слізганулі па гладкім — Сашка зразумеў, што ён намацаў бутэльку. Салдаты германскай арміі атрымлівалі віннны запас, шнапс, і захоўвалі яго ў біклажках. Сашка выцягнуў бутэльку з залітым сургучом рыльцам.

Ён здзівіўся.

Салдаты абедзвюх армій ведалі добра рэчы адзін аднаго. Гэта былі пасылкі мёртвых жывым. Сашка ведаў, што і дзе ляжыць і колькі яго павінна быць. Усё залежала толькі ад таго, калі салдат абнавіў змесціва: германскі — ранца, рускі — сідара. Немцы вывуджвалі з рускіх заплечных мяшкоў сала і самыя сапраўдныя крупы, яшчэ даспадобы ім былі рускія кансервы, яны таксама былі натуральнымі, тытунец быў нішто сабе, ніколі не было цыгар, зусім нічога не вартым быў чай, гэтае свінячае пойла маглі піць толькі рускія, прычым сёрбалі вёдрамі. Зробленыя з патронных гільзаў запальнічкі былі амаль аднолькавымі, можа, толькі нямецкія больш па-майстэрску зробленымі. Рускія выкідалі нямецкую жратву адразу, калі было хоць трошкі сваёй, пакідалі галеты, бекон, шнапс і ўсё, што было з жалеза, гэта значыць металу: запальнічкі, нажы, зашпількі ад рамянёў, біклажкі, кацялкі — метал у германа быў добры. Гадзіннік, і для тых, і для другіх, — гэта абавязкова. Іхні кофей быў дрэнь, і гэтае свінячае пойла маглі піць толькі Гансы і Фрыцы.

Сашка разглядаў бутэльку.

Кроў на назе запяклася, не цякла, але Сашка ведаў, што варта толькі паварушыць нагой — і кроў зноў можа пайсці, таму ён цяпер выбіраў усё неабходнае, каб апрацаваць рану і перавязаць. Трэба было ўсё зрабіць хутка, хто ведае, колькі яшчэ тут давядзецца лынды біць. На бутэльцы ён угледзеў паміж іншымі словамі «*Rоп*», гэта значыць «ром», зразумеў ён. Гэта было выдатна. Не таму, што хацелася выпіць, на самай справе выпіць не хацелася, круцілася галава і нудзіла, але ромам можна было апрацаваць рану. Бутэлька была цёмная, амаль чорная, ён яе падняў і пагдядзеў на святло — поўная.

«Падыходзіць, — думаў Сашка і прыладжваўся, як яе адкаркаваць: рыльца было аблітае сургучом, а ў сярэдзіну абавязкова, як падказваў яму досвед, туга ўваткнуты тоўсты корак. Такія бутэлькі ён бачыў у шынку, дзе служыў, у буфетчыка. — Аднак дзіўна ўсё гэта… у атаку са шкляной бутэлькай…» Ён разглядаў бутэльку, і раптам прыйшла нечаканая думка, і ён пачаў разглядаць немца. Здагадка была правільнай — абцасы нямецкіх ботаў былі не стаптаныя, не скрыўленыя — новыя.

«Трэба было б зняць, калі да нагі будуць, пакуль не спруцянеў».

Рускім падабаліся германскія боты — яны былі з добрымі каванымі падэшвамі. Калі трапляліся новыя, дык іх хапала амаль на паўгода. У нашых былі добрыя халявы, а ў германца — падэшвы. «Вось бы разам шылі! — жартавалі тыя, ды, відаць, і другія. — Руска-германскаму боту зносу б не было!» Праўда, год ад году, колькі доўжылася вайна, боты і тых, і другіх рабіліся горшымі.

«Проста з эшалона, ці штo?» — здагадаўся ён і пачаў угледацца ў іншых немцаў, побач валялася чалавек пяць, і на ўсіх было ўсё новае.

«Так і ёсць, проста з эшалона!» — зразумеў ён і яшчэ падумаў, як бы там ні было, а памер ён зможа падабраць ажно з пяці пар: што твой магазін, толькі «прыкашчыка не хапае!»

«І чо, так не здужаем?»

Ён убачыў, што ў яго немца з-за халявы штосьці тырчыць. «Нож, шавецкі, вось гэта добра, дык шчас я ім бутэльку гэту і адкаркую». Ён перавярнуў немца на спіну, і ў гэты час з германскага боку стукнула і з халодным жудасным свістам пачала налятаць міна.

«Нічо! Калі свісціць, значыць, не мая…» — супакойваючы сябе, падумаў ён, але зноў-такі па вышыні гуку вызначыў, што хоць і не яго, а ў зямлю ўвап'ецца зусім недалёка. Ён нацягнуў немца, як коўдру, на сябе, і ў гэты момант міна ўпала ўнутры траншэі крокаў за сем ад таго месца, дзе ён ляжаў. Ён вельмі своечасова нацягнуў на сябе забітага, бо адчуў, як цела нябожчыка тузанулася, зямля здрыганулася ад выбуху, палящела рэдкая гразь, здрыгануўся і немец.

«Папалі, ці што? Во даюць! — ухмыльнуўся хлопец, але зрабілася вусцішна. — А калі б я ім не прыкрыўся… Га, немец? Як цябе, Фрыц ці Ганс? Выратавальнік ты мой!» Немец, зразумела, прамаўчаў, і Сашка закрыў яму вочы. Паабціраў з рукі пясок аб шэрыя нямецкія порткі і пачуў яшчэ некалькі: тук-тук-тук. Прыляцелі яшчэ міны, стукнуліся ўнутры траншэі, але ўжо не толькі справа, але і злева, закідалі ўсё мокрым пяском, гразёю і глінай з бруствера.

«Калі шча нашы не адкажуць, — падумаў Сашка, — значыцца, герман пойдзе ў атаку, тады мне ці капцы, ці палон…»

Праз імгненне пачулася буркатанне з паўднёвага ўсходу, слых злавіў чэргі рускіх трохцалёвак, і праз некалькі секунд на германскім баку бабахнула.

«Ударылі! Ну, немчура пакуль што пасядзіць!»

**Пераклала з рускай**
**Ірына КАЧАТКОВА**

# Сем гадоў у пшанічным краі

## Да гісторыі стварэння рамана «Расія» Уладзіміра Гніламёдава

**Да топаса Расіі беларускія пісьменнікі звяртаюцца з часоў «Нашай Нівы». Адзін з першых твораў, дзе месцам дзеяння паўстае Расія, — драматычны абразок Максіма Гарэцкага «Жартаўлівы Пісарэвіч» (1922, 1927). Галоўны герой разам з сям'ёй — «уцекачы з Польшчы» — трапляюць у «глухі расійскі горад», і пачуваюцца тут вельмі непрытульна. Тэме бежанства прысвечаны і раман Уладзіміра Гніламёдава «Расія» (2002), які ўваходзіць у склад шматтомнай хронікі сям'і Кужаляў з вёскі Пруска. Расійскае сяло Запалоннае, дзе знаходзяць прытулак бежанцы з Прускі, апынаецца больш гасцінным, чым горад Максіма Гарэцкага. Уладзімір Гніламёдаў таксама паказвае трагічныя падзеі грамадзянскай вайны, піша пра нястачу, голад, хваробы. Разам з тым, лёс галоўных герояў «Расіі» складаецца няблага: Лявон Кужаль нават прывозіць з Запалоннага жонку Фёклу. Пра гісторыю стварэння рамана і яго мастацкую канцэпцыю распавядае Уладзімір Гніламёдаў:**



— Вялікую ролю ў фарміраванні задумы рамана адыграў час перабудовы. Раней, каб звярнуцца да гісторыі бежанства, не хапала належнай творчай свабоды. Я раіўся з пісьменнікамі, крытыкамі — Іванам Шамякіным, Іванам Навуменкам, Уладзімірам Калеснікам, і яны благаславілі звярнуцца да гэтай тэмы.

У час перабудовы пачалі інакш абмяркоўвацца падзеі пачатку стагоддзя. Напрыклад, запомнілася думка, што Першая сусветная вайна, па сутнасці, стала канцом Расійскай імперыі. Пасля была рэвалюцыя, грамадзянская вайна — з 1917 года, можа, і пачалося XX стагоддзе. Таксама зачапіла меркаванне, што СССР па сутнасці быў імперыяй. Новыя канцэпцыі, неабходнасць новага разумення гісторыі патрабавалі адказу — так я ўзяўся за раман «Расія». Падзеі Першай сусветнай вайны закранулі маю вёску Кругель, мой Камянецкі раён, усю Брэсцкую вобласць.

Аповеды пра бежанства я чуў з дзяцінства: увечары мы збіраліся ў хатах на пасядзелкі, і пачыналіся цікавыя ўспаміны, якія запомніліся і мне. У свой час гэты пласт быў выкліканы да жыцця. Найбольш красамоўныя наратары — Фёкла, Лявон — сталі героямі рамана. Вядома, я нешта дадаў, змяніў...

**— Такім чынам, твор заснаваны на рэальных падзеях?**

— Безумоўна. У сувязі з адступленнем расійскай арміі вяскоўцы былі вымушаны ехаць у бежанства. Гэта адбывалася не добраахвотна: былі атрады казакаў, якія арганізоўвалі ад'езд бежанцаў. Давалі тэрмін на падрыхтоўку, потым сяляне ехалі на павозках да чыгуначнай станцыі, здавалі каня ваенным інтэндантам, атрымлівалі білет бежанца, па якім бясплатна выдавалі кіпень, крупы, іншы харч па шляху на ўсход. Людзі ехалі доўга — па некалькі месяцаў. Ад цягнікоў паступова адчэплівалі па адным вагоне і пакідалі беларусаў у губернскіх гарадах. Бежанцы з Кругеля заехалі за Волгу, за Самару, трапілі ў сяло Запалоннае. Было іх больш за 20 сем'яў, усіх разабралі па хатах. Мясцовыя праявілі гасціннасць, далі прытулак, працу. У цэлым ставіліся да бежанцаў добра і зычліва.

**— Ці даводзілася вам наведваць Запалоннае?**

— Так, пісьменніку трэба ведаць дэталі, без гэтага прозу не напішаш. Я некалькі разоў браў творчыя камандзіроўкі ў Саюзе пісьменнікаў БССР і ездзіў у сяло, дзе мае аднавяскоўцы, як і героі рамана, жылі з восені 1915 года па 1922 год. У 1921-м годзе пачаўся вялікі голад, дайшло да самых крайніх форм... Бежанцы жылі ў вёсках, дзе людзі ўмелі прызапашваць ежу — але менавіта тады пагоршыліся адносіны між бежанцамі і мясцовым насельніцтвам.

**— Ці засталася памяць пра бежанцаў у гэтым сяле?**

— Падчас голаду 1921 — 1922 гадоў многія з'ехалі ў Астрахань, Ташкент, Чалябінск, ва Урал і Сібір, таму насельніцтва змянілася. А я працаваў у мясцовых архівах, гартаў дакументы — мне прыносілі папкі, перасыпаныя хлоркай... У 1920-я гады панаваў тыф, памерла шмат людзей. Немагчыма было знайсці лячэнне, таму ўсё перасыпалася хлоркай. У архіве я даведаўся пра камуну «Таварыш Троцкі», знайшоў цікавыя заявы і запіскі... У выніку ведаў пра грамадзянскую вайну больш, чым жыхары Запалоннага. Вядома, я непасрэдна знаёміўся з сялянамі, каб высветліць, ці адрозніваліся яны менталітэтам ад беларусаў. Адрозненні знайшліся: мае землякі сціплыя, спакойныя, спагаслівыя. Мясцовыя — нязмушаныя, свабодныя, крутыя па характары, зухаватыя: «У нас пшанічны край, мы блінамі можам дарогу да Масквы пракласці! У нас і нафта ёсць!..». Я падумаў, што ў гэтых людзях шмат пракаветнага, хазарскага. Асмужаныя твары, бо навокал стэп... Відаць, між сабой яны не заўсёды ладзілі. Калектывізацыя — гэта працяг грамадзянскай вайны, і ў той час у Запалонным было шмат ахвяр.

**— Героі рамана часта размаўляюць на трасянцы, своеасаблівым атрымліваецца маўленне расійскіх сялян. Як патлумачыце вашу стратэгію?**

— Мне здаецца, што героі павінны размаўляць менавіта так. Як інакш запісаць рэплікі рускамоўных персанажаў? Праўда, верагодней, што так размаўляюць не вельмі адукаваныя беларусы. Яны перакручваюць рускае, польскае слова, але сваё пракаветнае, вясковае помняць добра... Я не мог пісаць інакш і браў прыклад з Івана Пташнікава. Ён моватворца, і кожны пісьменнік павінен быць моватворцам, бо наша мова перажывае аднаўленне, узбагачаецца новымі словамі. Да таго ж, я прачытаў шмат слоўнікаў розных гадоў і заўсёды хачу знайсці ў творы месца адмысловаму слову. Выкарыстоўваю і цікавыя словы, пачутыя ад сяброў. Асобная ўвага — да імёнаў персанажаў. Напрыклад, Свісціян — так сяляне называлі Себасцьяна. Гамон — ад імя Агамемнан, якім, па словах нашага колішняга супрацоўніка Паўла Дзюбайлы, любіў хрысціць хлопчыкаў адзін мясцовы святар...

**— Уладзімір Васільевіч, вы звярнуліся да літаратуры як даследчык, крытык... З якой нагоды вырашылі пісаць мастацкую прозу?**

— Стварэць літаратуру — гэта значыць стварэць сваю філасофію жыцця. Пісьменнік — вельмі чалавечная прафесія, і паспытаць цяжар творчасці — гэта вялікае шчасце. Калі я ўзяўся за прозу, то ў літаратурна-мастацкіх часопісах да гэтага паставіліся добра. У «Маладосці» вельмі дапамог дасведчаны пісьменнік і выдатны рэдактар Генрых Далідовіч. Мы абмяркоўвалі, спрачаліся, правілі тэкст... Спачатку пачуваўся няўпэўнена, але творы друкуюцца, прыходзяць лісты ад чытачоў. Вядома, кожнаму імпануе пэўны стыль і жанр. У мяне больш эпічнага падыходу, шмат увагі надаю апісанням. Вельмі цаню ў рабоце пісьменніка нечаканасці — запасычыў гэта ў Піліпа Пестрака — у яго нават быў выраз «Ну, ты даў нечаканасць!». Гэта гучала як ухвала, бо здольнасць знайсці нечаканы ход вельмі важная для пісьменніка. Рэжысёры тэатральных пастановак таксама будуюць сваю паэтыку на нечаканасцях. Нельга закалыхваць чытача альбо гледача.

**— Падчас працы над раманамі нельга было не разважаць пра адметнасці беларусаў як нацыянальнага тыпу. Якія рысы, на вашу думку, дапамагаюць беларусам жыць у гармоніі з сабой і іншымі?**

— На гэта пытанне спрабавалі адказаць многія: філосафы, пісьменнікі, культуролагі... Пагодзімся з Уладзімірам Караткевічам: беларусы розныя па здольнасцях, па характары. Але абагульніць назіранні таксама можна. Кажуць, што беларусы цягавіты, пакладзісты народ — і гэта сапраўды так. Вядома, беларусы талерантныя. Па свеце ходзіць шмат не заўсёды аб'ектыўных, правільных думак і ацэнак, што тычыцца іншых народаў і нацый. Гэтым засмечаны свет, ад гэтага трэба адмаўляцца, і беларусы не вельмі зважаюць на такія стэрэатыпы.

Беларусы спакойна ставяцца да магчымасці атрымаць вышэйшы чын, ім не ўласцівы кар'ерызм. Разам з тым, многія народы пры сустрэчы ў свеце беспамылкова пазнаюць сваіх. Пра беларусаў гэтага не скажаш. Беларусам не хапае пачуцця адзінства, карпаратыўнасці. Душэўнасць ёсць, беларусы адгукнуцца на просьбу дапамагчы, але ўвогуле яны адасобленыя, індывідуалісты. Калі казаць пра светаўспрыманне, то беларусы любяць абмацваць свет. Іх успрыманне не абстрактнае, не спірытуалізаванае. Рэчыўнасць, прадметнасць, катэгарычнасць вызначаюць сакавітасць мовы.

Жыццёвыя прынцыпы і прыярытэты беларусаў адлюстраваны ў выдатных прыказках: «Як дбаеш — так і маеш», «Хто бацьку шануе, той і дзецям добрую долю гатуе», «Бог дапамагае таму, хто сам сабе дапамагае», «Не хвалі сябе, хай людзі пахваляць», «На праўдзе свет стаіць»... Фальклор і гісторыя шмат кажуць пра народ — і гэта невычэрпная крыніца для нашых творцаў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



# На тры дзясяткі тамоў

**Творчасць празаіка Мікалая Чаргінца ведаюць не толькі ў Беларусі. Яго творы перакладзены на многія замежныя мовы і сёння перастварающца ў Францыі ды Вялікабрытаніі. Акрамя таго, гэта першы айчынны аўтар, чыя кніга выдадзена ў Турцыі — вядома, у перакладзе на турэцкую мову.**

А выдавецтва «Харвест» летась распачало без перабольшання грандыёзны праект — выданне 30-томнага Збору твораў Мікалая Чаргінца. Кнігі будуць распаўсюджвацца і за межамі Беларусі. Ужо выйшла больш як палова тамоў Збору. Сярод твораў — «Сыны», «Аперацыя "Кроў"», «Маёр Ветраў» ды іншыя.

У 2017-м споўніцца 100 год беларускай міліцыі. Юбілей будзе адзначацца 4 сакавіка. Менавіта гэтая дата зафіксавана ў рамане Мікалая Чаргінца «Загад № 1» як пачатак існавання міліцыі ў нашай краіне.

— Да ўрачыстай падзеі прымеркаваны і выпуск у межах Збору тых кніг, што прысвечаны толькі беларускай міліцыі: «Вам — заданне», «За секунду да стрэлу», «Фінал Краба», «Следства працягваецца», «Служба — дні і ночы»... Акрамя Беларусі яны былі выдадзены ў Расіі ды іншых краінах, прычым раман «Вам — заданне» вытрымаў больш як трыццаць перавыданняў, — распавёў Мікалай Іванавіч.

Завяршыць выданне Збору твораў Мікалая Чаргінца плануецца ў наступным годзе.

**Яна ЯВІЧ**

# Сябры, саапернікі, калегі...

## Беларускія пісьменнікі і іх рускія перакладчыкі



*Якуб Колас і Сяргей Гарадзецкі. Масква, 1949 год.*

Максім Горкі ў артыкуле «Пра пісьменнікаў-самавучак» у 1911 годзе звярнуў сярод іншага ўвагу на «маладую літаратуру беларусаў...», "на работу людзей, што згрупіраваліся вакол газеты "Наша ніва". Дазволю сабе прывесці песню, выдадзеную нядаўна "Нашай нівай", словы напісаныя беларускім паэтам Янкам Купалам».

### БЕЗ КРЫЎДЫ

Гэта быў верш «А хто там ідзе?» у перакладзе на рускую мову. Ці не ўзяць яго за пачатак супрацоўніцтва, якое і сёння актыўна працягваецца, — супрацоўніцтва беларускіх пісьменнікаў і рускіх перакладчыкаў?..

Да слова, пераклад Горкага спрэчны: Купалаву «крыўду» ён пертварыў у «кривду», што змяняе сэнс радка. Горкі звяртаецца да аўтара: «Прашу Янку Купалу прабачыць мне благі пераклад яго красамоўнай і суровай песні».

З «самавучкам» Купалам Горкага пазнаёміў навуковец Андрэй Посах: будучы кандыдат фізіка-матэматычных навук захоплена дэкламаваў вершы са зборніка «Жалейка». Яго ж Посах пазней дашле Горкаму, уклаўшы ноты песні «А хто там ідзе?». Пісьменнік усур'ёз зацікавіўся творчасцю беларуса, нават думаў, як бы перакласці паэму «Адвечная песня» на «великорусский язык». Але справа скончылася адным вершам.

### РОДНЫЯ ДУШЫ

Сяброўства Міхаіла Ісакоўскага і Янкі Купалы пачалося ў сярэдзіне 1930-х дзякуючы «творчым абменам» паміж Мінскам і Смаленскам: у беларускай сталіцы выйшаў зборнік «Паэты Заходняй вобласці» (1935), у тым ліку з вершамі Ісакоўскага, а ў Смаленску — «Паэзія Савецкай Беларусі» (1934), адпаведна, з творамі Купалы.

Яны часта сустракаліся ў рабочых паездках, разам выступалі перад рабочымі і іншай «мэтавай» аўдыторыяй. Ісакоўскі ўсё часцей звяртаўся да творчасці Купалы. У выніку сабралася больш як семдзесят паэтычных перакладаў. Якія, да слова, падабаліся беларускаму творцу: ён заўжды ўключаў іх у свае рускамоўныя кнігі. Была і зваротная сувязь: Купала пераклаў верш Ісакоўскага «Майстры зямлі» (надрукаваны ў «ЛіМе» ў 1934 годзе).

Ісакоўскі, захоплены паэзіяй Купалы, падрыхтаваў у 1937 годзе яго зборнік «Выбраныя вершы», які складаўся выключна з перакладаў самога Ісакоўскага.

Яны вялі актыўнае ліставанне. І адным з апошніх лістоў Купалы аказаўся ліст да Ісакоўскага: паэт дзякаваў за адданую работу і запрашаў да падрыхтоўкі новага рускамоўнага зборніка.

Купалу і Ісакоўскага лучыла не толькі літаратурная справа, але і падобнасць лёсаў, якая сталася падобнасцю характараў і светапоглядаў. Абодва нарадзіліся ў шматдзетных сялянскіх сем'ях: у Ісакоўскага з дванаццаці сясцёр і братоў выжыла пяцёра, у сям'і Купалы з сямёх засталося чатыры. Абодва былі чуйныя да людзей, сціплыя, па-мудраму простыя і надзвычай патрабавальныя да сябе ў працы. Абодва прайшлі праз газетныя рэдакцыі: Купала працаваў у «Нашай ніве», Ісакоўскі — у «рабочым» друку. На творчы лёс абодвух паўплываў Максім Горкі (зрэшты, на чый лёс ён не ўплываў у свой час?..).

Апроч іншага, Ісакоўскаму была вельмі блізкая беларуская мова. На Смаленшчыне захаваліся такія словы, як «країна», «мужык», «пан», «хата», «жыта», «шлях», «жалейка», «бульба»; бацька Ісакоўскага ў пошуку заробку вандраваў па беларускіх вёсках. Вершы Купалы былі для рускага паэта гісторыямі пра яго ўласную радзіму — «и даже, может быть, обо мне самом».

### НЯПРОСТАЕ СЯБРОЎСТВА

«Мой дорогой друг!» — пачынаў свае лісты да Сяргея Гарадзецкага Якуб Колас. У эпісталярнай спадчыне Коласа, якая налічвае больш за тысячу лістоў і паштовак, немалая доля прыходзіцца на адрас Гарадзецкага. Але не заўжды іх стасункі былі роўныя.

Яны пазнаёміліся ў 1933 годзе. «Чалавек ён быў вельмі цікавы, з дваранаў, карыстаўся аўтарытэтам у мастацтве, — кажа пра Гарадзецкага Міхась Міцкевіч, сын Коласа. — Ён жа «адкрыў» нам Ясеніна. Паводле яго слоў, ён скончыў два факультэты ўніверсітэта, многа вандраваў па свеце. Многае пабачыў і пра ўбачанае, дамаляванае яго багатай фантазіяй, расказваў неверагодныя гісторыі. Расказчыкам ён быў выдатным, хоць дыкцыя была даволі невыразная, і бацька параўноўваў яе з цецеручыным балбатаннем. А за верагоднасць гісторый у жарт называў Наздровым. Але ж пасябраваў і прывязаўся да яго, перасылаў многа грошай для падтрымкі».

Ключавую ў творчасці Коласа «Новую зямлю» на рускую мову пераклаў усё той жа Ісакоўскі, які называў паэму самым любімым творам: яго захаплялі «першародная чароўнасць і зямная плоць верша Коласа і яго тонкая паэтычнасць». Зрабіў пераклад некалькіх раздзелаў і Гарадзецкі. Але няўдала. Максім Лужанін зрабіў шэраг заўваг па перакладзе, і Колас угаворваў Гарадзецкага выправіць работу («месцаў 500»), але той адмовіўся. Нават больш: прыпыніў пераклад «Рыбаковай хаты». Да Коласа дайшлі звесткі, што пакрыўджаны Гарадзецкі распаўсюджваў чуткі, быццам бы «Новая зямля» — кулацкая паэма. Колас напісаў з гэтай нагоды ліст Гарадзецкаму.

Да слова, стасункі Коласа з перакладчыкамі простымі не былі ніколі. Ён быў добразычлівы, але вельмі патрабавальны. Дасылаў перакладчыку падрабязныя тлумачэнні незразумелых слоў і выразаў (у тым ліку Гарадзецкаму). Вера Міцкевіч, унучка паэта, распавядала, што Колас паважаў Гарадзецкага. А вось Гарадзецкі «ставіў сябе вышэй за Коласа. І рабіў пераклады не заўсёды добрасумленна. Таму ў Коласа было шмат прэтэнзій. Па-другому складваліся адносіны з іншымі перакладчыкамі. Скажам, вельмі якасна і добрасумленна стараўся перакладаць Пётр Андрэевіч Сямынін».

І ўсё ж апошнія лісты Коласа, напісаныя ў дзень яго смерці 13 жніўня 1956 года, былі адрасаваныя перакладчыкам — Яўгену Мазалькову і Сяргею Гарадзецкаму.

### РАМАН ЗА ДВА МЕСЯЦЫ

Пра стасункі Івана Шамякіна з рускамоўнымі перакладчыкамі пісала яго дачка Таццяна Шамякіна. Сярод першых перакладаў яна згадвае раман «Глыбокая плынь», які ў 1948 годзе апублікаваў часопіс «Полымя». На твор звярнула ўвагу маскоўская перакладчыца Соф'я Грыгор'ева (яна мела беларускія карані). У 1949-м раман выйшаў асобнай кнігай у Мінску — і тады ж, на рускай мове, у Маскве. Перакладчыца была так захоплена раманам, што работа заняла ўсяго два месяцы.

Таксама да творчасці папулярнага празаіка звярталіся перакладчыкі Міхаіл Гарбачоў, Валянціна Шчадрына, Арсен Астроўскі, Павел Кабзарэўскі... З апошнімі двума ў Шамякіна склаліся цёплыя сяброўскія адносіны. Астроўскі пераклаў на рускую мову апавяданні «Дзве сілы», «Сялянка», «Хадакі», «Першае спатканне», раманы «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», пенталогію «Трывожнае шчасце» (разам з Кабзарэўскім).

Шамякін актыўна ліставаўся з пецярбургскімі перакладчыкамі, асабліва — з Кабзарэўскім. Паміж рабочымі тэмамі абавязкова згадваліся справы сямейныя: «Як жыву? Хвароба выбіла з творчай каляіны. Тры месяцы нічога не пішу і наогул нічога не раблю. Зараз адчуваю сябе лепш, але брацца за працу ляпнуюся. Маша (жонка Івана Шамякіна. — **А.Ж.**) таксама, нарэшце, стала на ногі і лечыць дамашнімі сродкамі мяне і малых». Ліставанне доўжылася амаль дваццаць гадоў, з 1951 па 1970-ы, і часта ў лістах да Паўла ён перадаваў прывітанні Астроўскаму.



*«Янка Купала і Максім Горкі». А. Глебаў, 1948 год.*

### ТАЯМНІЧАЯ ДАМА

У кнізе Анатоля Кудраўца «За дальнім прычалам» ёсць раздзел «Вузлы», прысвечаны сустрэчам з Янам Скрыганам. Згадваючы паездку ў Каралішчавічы ўвосень 1971 года, аўтар піша: «Яркай падзеяй запомнілася з'яўленне ў доме творчасці незнаёмай асобы — высокай, стройнай, у блакітных, расклёшаных ледзь не на флоцкі манер штанах. [...] Інтрыгай было і тое, што некалькі разоў побач з ёй я заўважаў Івана Аляксеевіча. [...] Нешта выдавала, што паміж гэтай парай — высокая, строгая ў паставе і хадзе дама і невысокі, трошкі мешкаваты, з пастаянным крутым паваротам галавы да субяседніцы, быццам ён увесь час стараўся зазірнуць ёй у вочы, Іван Аляксеевіч, — што паміж гэтымі дваімі нешта ёсць ці павінна адбыцца».

І адбылося: пераклад апавяданняў Яна Скрыгана ў «Нёмане». Таямнічая жанчына ў модных штанах аказалася пецярбургскай перакладчыцай Ідаліяй Кананец. Анатоль Кудравец між іншымі зазначае, што Ідалія Ігнатаўна валодае «шчымлівым чуццём да беларускага слова». Разгадка простая: перакладчыца родам з Сенненскага раёна Віцебскай вобласці.

Ідалія Кананец перакладала і прозу Максіма Гарэцкага. А пачалося ўсё з ліста ад «Мастацкай літаратуры» ў 1987 годзе. Пра гэта Ідалія Ігнатаўна распавяла сама — у лісце, дасланым да прэзентацыі выбраных твораў Гарэцкага ў перакладзе на рускую мову «Родные корни».

«Да гэтага часу я ўжо ведала і ўсёй душой разумела і прымала Гарэцкага, але нават не сніла, што мне даручаць перакладаць класіка. [...] Пасля выхаду ў свет «Выбранага» вырашыла пазнаёміцца з Галінай Максімаўнай Гарэцкай. Гэта знаёмства перарасло ў сяброўства: сустрэчы ў мяне і ў яе, дні народзінаў, абмен кнігамі, ледзь не штотыднёвыя тэлефонныя размовы... [...] Сяброўства наша цягнулася да сыходу дачкі М. Гарэцкага ў далейшы незваротны шлях. Я была б нашмат бяднейшай душой, калі б не маё сяброўства з Галінай Максімаўнай».

Пераклады асобных апавяданняў Максіма Гарэцкага, зробленыя Ідаліяй Кананец, друкаваліся ў «Нёмане». Таксама можна ацаніць яе работу з раманам «На імперыялістычнай вайне».

### НЯЎДАЛАЕ ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Усесаюзная папулярнасць прыйшла да Уладзіміра Караткевіча ў 1969 годзе, пасля публікацыі «Маладой гвардыяй» рускамоўнага перакладу «Чазеніі». Над ім працаваў Уладзімір Сяўрук, які да таго паспеў перакласці апавяданні Караткевіча «У шалашы», «Ідылія ў духу Вато», «Вока тайфуна».

Што да ключавых твораў беларускага рамантыка, іх перастварэннем на рускую мову займалася Валянціна Шчадрына. Дзякуючы ёй прыйшлі да новага чытача «Каласы пад сярпом тваім», «Чорны замак Альшанскі», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Зброя». Аднак і яна не насмелілася ўзяцца за пераклад рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Даследчык Пятро Жаўняровіч зазначае, што першы пераклад гэтага рамана на рускую мову, «вельмі скарочаны і не зусім удалы, быў апублікаваны ў № 11 — 12 часопіса «Нёман» за 1966 г. Варта нагадаць, што ў той час над перакладчыкам Навумам Кіслікам, у дадатак да ўсяго іншага, высеў і ідэалагічны меч — атэістычны, які не садзейнічаў паўнавартаснай працы з творам».

Наступная спроба адбылася праз сорак гадоў: у 2006-м выдавецтва «Амфора» ў Санкт-Пецярбургу выпусціла рускамоўнага «Хрыста...» (што цікава, не ўзгадніўшы пытанне аўтарскага права з яго ўладальнікам). Але, пераклад не ўдаўся. «Нават падчас першага знаёмства з кнігай (звычайнага перагортвання старонак) узнікае два пытанні. Свядомы выбар Караткевіча нумарацыі раздзелаў рымскімі лічбамі перароблены перакладчыкам альбо выдавецтвам: у перакладзенай кнізе выкарыстаны арабскія, якія пачалі выкарыстоўвацца ў Еўропе толькі з канца XV ст. і ў XVI, наўрад ці маглі шырока распаўсюдзіцца на тэрыторыі Беларусі. Назва рамана ўтрымлівае найменне горада, якога не існавала ў XVI ст. (Горадзен, Гарадня, Гародня, а не Гродно)», — разважае Пятро Жаўняровіч. «Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што А. Сурнін усё ж такі заўважае некаторыя стылістычныя хібы арыгінала і спрабуе іх ліквідаваць».

Пазнаёміўшыся з перакладам Сурніна, беларускі мовазнаўца вырашыў выправіць сітуацыю: сам пераклаў «Хрыста...» на рускую мову. Кніга выйшла ў 2011 годзе. Але найбольш адэкватны, «пісьменны» пераклад так і не займеў распаўсюд на кніжным рынку Расіі.

На гэтым гісторыя не заканчваецца: шматлікія тэксты ў новым зборы твораў Караткевіча публікуюцца моцна дапоўненымі, змененымі. А значыць, патрэбныя новыя пераклады на рускую мову.

**Андрэй ЖБАН**

# Абмен жыццямі

**Беларусы з увагай ставяцца да літаратурных дасягненняў сваіх суседзяў, асабліва калі гаворка ідзе пра расіян. Не адно пакаленне вырасла на вершах Ахматавай і Пастарнака, зачытвалася Платонавым і Талстым... А што сёння?**

Сучасныя расійскія аўтары не адстаюць. Што тычыцца Беларусі, то адметны факт: іх кнігі ў перакладах і без сталі з'яўляцца ў РВУ «Літаратура і мастацтва» ў пачатку 2000-х, затым у Выдавецкім доме «Звязда». «Сёння тэндэнцыя выдання кніг рускіх аўтараў працягваецца і з кожным годам набірае моц. Мы працуем з празаікамі, паэтамі і крытыкамі не толькі з Санкт-Пецярбурга і Масквы, але і з далёкіх куткоў Расіі — ад Удмуртыі і Якуціі да Чувашыі і Татарстана», — адзначыла загадчык аддзела кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда» Вольга Аляксеева.

У Мінску на «круглых сталах» і іншых мерапрыемствах традыцыйна збіраюцца літаратары двух дружалюбных народаў — наладжваюць перакладчыцкія сувязі, абмяркоўваюць магчымасці публікацыі твораў у беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы, а таксама стварэнне калектыўных зборнікаў.

Адной з першых і самых яркіх кніг у выдавецкім доме быў зборнік вершаў Яўгенія Еўтушэнкі «Сережка ольховая», дзе паэт звяртаецца да сваіх каранёў, узгадвае роднага дзеда, поўнага Георгіеўскага кавалера і выхадцу з палескай вёскі Хомічы, які быў расстраляны ў сталінскія гады. Моцная, тонкая, пранізлівая паэзія. А пачынаецца кніга з верша «Белорусинки» пра бабулю Еўтушэнкі, Ганну, як няцяжка здагадацца, беларуску.

За гэтай кнігай у 2009 годзе рушыла іншая — «Агні на вадзе» Любові Турбіной, якая нарадзілася ў Ашхабадзе, але жыла ў Ленінградзе і Мінску. Адзін час працавала ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Спачатку ў кнізе проза, эсэ-замалёўкі, кожнае з якіх прывязана да пэўнага месца ў Мінску. Гэта настальгія, успаміны, наслаенне падзей асабістых і агульнаграмадскіх... Другая частка зборніка — вершы розных гадоў. Любоў Турбіна, па словах Вольгі Аляксеевай, зноў даслала ў выдавецкі дом свае вершы…

У Выдавецкім доме «Звязда» збіраюцца далей публікаваць і Аляксандра Чарняка, аўтара «Тайн рэвалюцый у Расіі», кнігі няпростай, напоўненай апісаннямі цяжкіх падзей і пераваротаў на мяжы стагоддзяў. Аўтар як гісторык бачыць далей і глыбей, цікавіцца новымі фактамі і абставінамі.

Атмасферай жыццялюбства, шчырасці, аптымізму, яркай метафарычнасцю заражае лірыка Уладзіміра Шуглі. У ліку апублікаваных выдавецкім домам зборнікаў — «Дарога да дома» і «Рытмы лёсу». Аўтар нарадзіўся ў горадзе Кыштыме Чалябінскай вобласці, а вось тата і мама родам з Беларусі.

Асаблівае месца ў ліку прыярытэтаў для выдавецтва займае Валерый Казакоў. «Горад, які заўсёды са мной ...» — аповесць вяртання, прысвечаная малой радзіме літаратара, Магілёўшчыне. Казакоў вельмі непрадказальны, разнапланавы, мудры. Ёсць у яго і амаль фэнтэзійная кніга «Цень Гобліна — Халоп Аўгусцейшага Дэмакрата», два раманы пра мінулае, што пранікае ў будучыню.

Як бачна, палітра расійскіх кніг, якія выпускаюцца Выдавецкім домам «Звязда», вельмі разнапланавая. Вядома ж, не абысціся без дзіцячай літаратуры. «Лідзіруе ў гэтай нішы Наталля Ігнаценка, масквічка, якая актыўна піша менавіта для нашага выдавецтва, прычым шмат, удзельнічае ў рэкламе і распаўсюджванні сваіх твораў», — паведаміла Вольга Аляксеева. Пачалося ўсё з кнігі «Казачныя падарожжы з прыгодамі», якая з'явілася спачатку на рускай мове, а потым у перавыданні. Адметныя дзве кнігі Наталлі Ігнаценка пра хлапчукоў, братоў, якія вывучалі этыкет і хацелі стаць спартсменамі. У мінулым годзе выходзілі і яе больш сур'ёзныя, нават павучальныя, вершы «Гутарка пад зорным небам».



Вольга Аляксеева з кнігамі Выдавецкага дома «Звязда».

На ганаровым месцы ў выдавецкім доме — серыя альманахаў «Сугучча», у два тамы з якіх увайшлі творы як беларускіх, так і маскоўскіх, піцерскіх празаікаў, паэтаў, літаратурных крытыкаў. Сярод іх — Андрэй Антонаў, Барыс Косцін, Кацярына Палянская, Аляксандр Багатыроў, Юрый Палякоў і Георгій Прахін, Юрый Казлоў, Яўген Шышкін.

Выдавецкі дом «Звязда» працуе і з рэгіёнамі Расіі, іншымі яе народамі. У рамках «Сугучча» выйшаў зборнік «Зорная крыніца». У афармленні кнігі выкарыстаны здымак фрагмента слуцкага пояса, а таксама элемент палескага роспісу. Вельмі сімвалічнае сумяшчэнне знакаў дзвюх культур. «Зорная крыніца» лішні раз нагадвае, наколькі неабсяжная і багатая літаратура Расіі. У зборнік увайшлі вершы і апавяданні Расула Гамзатава, Ханбічэ Хаметавай, Мустая Карыма, Рэната Харыса, Арсэна Дадуева, Вячаслава Ар-Сяргі, Рымы Ханінавай, Ахсара Кадзаці і інш. Аўтары прадстаўляюць аварскую і лезгінскую, лакскую і татарскую, чачэнскую, інгушскую, марыйскую, карачаеўскую і іншыя літаратуры.

Што ж плануецца выдаць у найбліжэйшай перспектыве? Па словах Вольгі Аляксеевай, выдавецкі дом узяўся за працяг кнігі Барыса Косціна пра Сімяона Полацкага.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**

## Янка Купала ў Маскве

*…Як і раней, праехаў міма,*
*Зноў да цябе не падышоў…*
*Бядой вялікаю ганімы,*
*Ты тут прытул*
*(канец) знайшоў.*

*Шуміць Масква!*
*З гары Паклоннай*
*Да неба ўспыхвае салют!..*
*Ты з галавой стаіш*
*схілёнай —*
*Хіба падымеш вочы тут?!*

*Шуміць Масква… Нібы на ліха,*
*Ўвесь вэрхал гэты цераз край.*
*І столькі пошласці і пыхі —*
*Цярпі! І рук не расціскай.*

*Глядзі, маўчы і нават жэста,*
*Паўслоўца нават — ані-ні!*
*Дзе на зямлі паэту месца?*
*Як тут, між глуму,*
*доўжыць дні?*

*Прарокам быць — жыццё*
*не гнуцца,*
*У бронзе потым каб стаяць*
*І не заплакаць, не ўсміхнуцца*
*І нават слова не сказаць!..*

*Маўчыш. І вусны як нямыя.*
*Адзін? Паэт паўсюль адзін.*
*Дзе шмат радні — усе чужыя.*
*А ты — сваёй Айчыны Сын.*

**Пераклаў з рускай**
**Мікола ШАБОВІЧ**

**(З кнігі Валерыя Грышкаўца «Як на духу!..», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда»).**

# Узаемнае натхненне

**Літаратура Расіі часта ў цэнтры ўвагі беларускай перыёдыкі, у прыватнасці часопіса «Нёман», распавёў яго галоўны рэдактар — намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Аляксей Чарота. У «Нёмане» ёсць рубрыка пад назвай «Сябрына» — гэта добрая творчая пляцоўка для аўтараў з краін СНД, у тым ліку Расіі, знак узаемапавагі і добрых культурных адносін паміж краінамі.**

— У 2003 годзе мы падпісалі дамову аб супрацоўніцтве з часопісам «Наш современник». З таго часу раз на год выходзіць «Нёман», прысвечаны рускай літаратуры, а ў Расіі, у сваю чаргу, — беларускай. Зараз гэта робіцца пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы. «Сябрына»: Беларусь — Расія. Так і называюцца нумары. Аўтары — выхадцы з самых розных народаў, што ўваходзяць у склад Расійскай Федэрацыі. У мінулым годзе, напрыклад, друкаваліся пісьменнікі краін Паўночнага Каўказа, — зазначыў Аляксей Чарота.

Але гэтым кірункам «Нёман» не абмяжоўваецца. Па словах галоўнага рэдактара, перыядычна ў часопісе выходзяць крытычныя і пазнавальныя артыкулы, аўтары якіх знаёмяць чытачоў, зноў жа, з неверагодна вялікім, амаль неабдымным, а таму заўсёды багатым на адкрыцці расійскім літаратурным полем.

**Марыя ВОЙЦІК**

Працяг. Пачатак на стар. 3.

# Няма межаў для літаратуры

**Аляксандр Казінцаў, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник»:**

— Можна задацца пытаннем: а навошта патрэбны літаратурныя часопісы? Акрамя таго, што яны друкуюць творы мастацтва, для многіх аўтараў і жанраў яны з'яўляюцца амаль адзіным шляхам да чытача. Заўважце, апавяданні, вершы, публіцыстыка, крытыка нярэдка адхіляюцца выдавецтвамі, таму са знікненнем часопісаў могуць знікнуць цэлыя жанры літаратуры. Акрамя гэтага, часопіс — заўсёды прапагандыст. На працягу многіх стагоддзяў, як і ў часы Пушкіна, Някрасава, Каткова, ён фарміруе напрамкі культурнага і грамадскага жыцця. Невыпадкова наша выданне «прапагандуе» літаратуру самага блізкага нам народа — беларускага. Ужо адзінаццаць гадоў мы выдаём нумары часопіса, прысвечаныя беларускай літаратуры, і напаўняем іх творамі паэтаў, празаікаў, крытыкаў, гісторыкаў Беларусі.

На гэты момант у часопісе прадстаўлена больш за сто беларускіх пісьменнікаў; у адным нумары, напрыклад, былі апублікаваныя творы Алеся Бадака, Сяргея Трахімёнка, Міхася Пазнякова, Тамары Красновай-Гусачэнка, Генадзя Пашкова, Андрэя Скарынкіна і іншых. У мінулым годзе мы не абмежаваліся асобным нумарам, а фактычна кожны месяц публікавалі творы беларускіх пісьменнікаў. Так выйшла, напрыклад, ваенная аповесць Уладзіміра Саламахі «Шануй веру сваю». Мы выкарыстоўваем наш тыраж, каб большай колькасці чытачоў сталі вядомыя творы беларускіх пісьменнікаў.

**Андрэй Дзічэнка, беларускі пісьменнік, журналіст, прызёр конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы»:**

— Я друкаваўся ў расійскіх выданнях, але хутчэй неафарматных, чым афіцыйных, хаця былі і публікацыі ў такіх сур'ёзных часопісах, як «Наш современник», асобныя апавяданні выходзілі ў калектыўных зборніках буйных расійскіх выдавецтваў. Літаратурны працэс у суседняй краіне мне заўсёды быў цікавы, як і літаратурны працэс увогуле.

Але больш мяне цікавяць перакладныя кнігі. Да прыкладу, якія выпускае ў большасці выдавецтва *Kolonna Publication*. Нядаўна ў іх выйшла выдатная кніга лістоў галандскага пісьменніка Герарда Румзэ, чаму я вельмі ўзрадаваўся. Сучасная руская літаратура, безумоўна, уплывае на мяне і маю творчасць, але не больш за сучасную французскую ці англійскую літаратуру. Хоць, напрыклад, кнігі Ільі Масодава ў свой час і Юрыя Мамлеева аказалі на мяне каласальны ўплыў. Без іх не стаў бы тым, кім стаў. З іншага боку, на адной планцы з імі размяшчаюцца такія пісьменнікі, як Самуэль Бэкет, Габрыель Віткоп, Томас Гюнцыг, Крысціян Крахт, і іншыя.

**Аляксей Арцёмаў, беларускамоўны паэт з Тулы:**

— Усе беларускамоўныя тэксты «аўтаматычна» лічу беларускай літаратурай, незалежна ад нацыянальнасці і грамадзянства аўтара. І сваё таксама. Тут мая пазіцыя кансерватыўная: іншамоўных пісьменнікаў з Беларусі я лічу «літаратурай Беларусі», а беларускамоўных — беларускімі. Вось можна паглядзець, напрыклад, на альманах «Беларус», дзе публікуюцца пісьменнікі беларускага замежжа. Там ужо пацюху з'яўляюцца маладыя людзі, якія ўсё жыццё пражылі ў ЗША, Украіне і г.д. І гэта беларуская літаратура, яна прарастае з такой жа глебы — з Купалы, з Багдановіча, з Быкава. Ну і хай сабе аўтар з амерыканскім пашпартам — хіба гэта важна?

За навінамі беларускага літпрацэсу перыядычна сачу. Але тут такая гісторыя: не магу сказаць, што люблю ўсе гэтыя рухі вакол літаратуры. Я без захаплення стаўлюся да літаратурных арганізацый, аб'яднанняў і г.д., у расійскім літпрацэсе не ўдзельнічаю і не ведаю, што там і як. Мой максімум — раз на некалькі гадоў паўдзельнічаць у якім конкурсе ці зрэдку даслаць нешта сваё ў часопіс. А ўвогуле мой стол мае чатыры шуфляды — ёсць куды пісаць.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Проста добрая гісторыя,
## ці Фантастычны бег па коле

**Пісьменнік Кенэт Грант у кнізе «Супраць святла» выказаў такую думку: «Праз люстра ты можаш перанесціся ў любы час, а праз дзверы — толькі ў адзін». Літаратура мае прыклады, дзе і дзверы могуць адкрыць паралельнае вымярэнне. Але што да люстраў, тут спрачацца не выпадае.**

### ПАДАРОЖЖЫ Ў ЗАЛЮСТРОЎЕ

Як толькі з'явіліся люстэркі, з'явіліся і фантастычныя тэорыі, з імі звязаныя. Сярэднявечны алхімік Парацэльс, прыкладам, лічыў люстэркі тунэлем, які злучае тонкі і матэрыяльны свет: пазасветныя галасы, галюцынацыі, дзіўныя гукі, адчуванне чужой прысутнасці... А яшчэ — што важна ў кантэксце разгляду кнігі Ксеніі Шталенковай «Адваротны бок люстра» — раптоўны пранізлівы холад. Героі яе трылогіі, якія вандравалі ў часе, падчас пераходу праз люстра адчувалі тое ж. Ці ўплывалі тэорыі Парацэльса на стварэнне трылогіі, нельга сказаць, але з пэўнасцю можна сцвярджаць, што імі кіраваліся ў свой час медыкі, уводзячы пацыентаў у гіпноз.

Звычайны, здавалася б, прадмет побыту стаўся цэнтральным у містычных вучэннях, займеў трывалае месца ў свядомасці чалавека, а значыць, у літаратуры. Найперш згадваецца казка Клайва Льюіса Кэрала «Аліса ў Залюстроўі». Таксама — казка Ганса Хрысціяна Андэрсэна «Снежная Каралева»: аскепак разбітага люстра патрапіў у сэрца Кая, што стала пачаткам вядомага сюжэта. Па той бок люстра, як і гераіня Ксеніі Шталенковай Бася, апынулася Воля, гераіня славутай аповесці-казкі Віталія Губарава «Каралеўства крывых люстэрак». З той толькі розніцай, што для Волі існавалі два светы — Перадлюстроўя і Залюстроўя, а для Басі Станкевіч свет быў адзін. Размежаваныя толькі часы, дакладней, Час. Ксенія Шталенкова выкарыстала люстэрка як машыну часу, але часцей сустракаюцца выпадкі, калі люстэрка — «транспартны сродак» для пераходу з аднаго свету ў іншы ці проста патаемныя дзверы. Як у кнізе «Прывід Оперы» Гастона Леру, дзе люстра вядзе ў жытло Прывіда.

У некаторых творах люстэркі з пасіўных «парталаў» ператвараюцца ў герояў. Сучасны брытанскі фантаст Чайна М'евіль напісаў постапакаліптычную аповесць «Амальгама», дзе люстраныя адбіткі захапілі Лондан і вынішчылі амаль усіх жыхароў. Люстэркі ў свеце Ксеніі Шталенковай паводзяцца не так агрэсіўна — але і яны хаваюць у сабе вялікую небяспеку. Якая спакуса: пазбавіцца праблем у дадзеным табе свеце, вырвацца з руціны, выправіцца ў захапляльнае падарожжа... І як лёгка згубіцца назаўсёды, згубіць сябе, стаць сваім жа адбіткам — няхай і ў метафарычным сэнсе. Легкадумная Бася гэтага не разумее. Але Міхал, адзін з цэнральных персанажаў твора, усвядоміў жудасную сілу люстраў і ратуе дзяўчынку. «...Узяў яе далонь, пацягнуўшы са Сціклю. Прэч ад антыкварнай крамы і пана Альбрыхта, прэч ад вітрыны, прэч ад люстра». Так заканчваецца трылогія «Адваротны бок люстра». Але мы вернемся да пачатку.

### НА КРУГІ СВАЕ

Першая частка трылогіі з'явілася яшчэ ў 2012 годзе: асобнай кнігай пад ужо вядомай назвай «Адваротны бок люстра». Да слова, асобных назваў часткі і не маюць. Сёлета ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніга, якая сабрала трылогію пад адну вокладку. Чытаецца яна як цэласны твор: паміж «дзеямі» адсутнічаюць нават найменшыя часавыя прамежкі — мы заспяваем герояў там жа, дзе і пакінулі іх.

Калі размова заходзіць пра трылогію ці іншы «складны» твор, заўсёды цікава звярнуць увагу на кампазіцыю, таксама — на эвалюцыю (герояў, аўтарскага стылю, саміх кампазіцыйных частак), калі яна ёсць. Тут — ёсць. Кампазіцыйна ўсе тры часткі падобныя: адкрываюцца амаль аднолькавымі рэплікамі пана Альбрыхта, галоўнага інтрыгана кнігі; маюць адну ключавую эпоху, у якую трапляюць героі, Міхал і Бася; яны ж атрымліваюць умоўнае заданне, выконваюць яго, праходзячы праз выпрабаванні, і напрыканцы вяртаюцца ў антыкварную краму пана Альбрыхта. Увесь гэты час змяняюцца як самі героі, так і адносіны між імі. Уласна, якраз гэтая лінія і трымае напружанне.

Адметнасць кампазіцыі твора яшчэ і ў тым, што аўтарка, лічы, правяла сваіх герояў па коле. Нават больш: галоўная гераіня, Варвара Станкевіч, пад заслону аказваецца ўсё той жа Басяй, якая на першай старонцы завітвае да хітрага антыквара. Яна не памятае прыгод, што выпалі на яе долю. Як і Міхала. Які, у рэшце рэшт, аказваецца адзіным героем трылогіі, які сапраўды змяняецца. Быць можа, ён і ёсць адзіны, сапраўды галоўны герой?..

### САКРЭТ ПОСПЕХУ

Ксенія Шталенкова — аўтар-падлетак (прынамсі, напачатку), які піша для такіх жа падлеткаў. І гэта адразу ж падкупляе: такая роўнасць гарантуе абсалютную адсутнасць павучанняў. Цікава, што псіхалагічны партрэт патэнцыяльнага чытача можна пабачыць у самой кнізе: «У сваё амаль шаснаццаць ты цвёрда верыш у дзве рэчы: тэорыю гравітацыі і сеціва. Калі кажуць пра рамантыку і прыгоды, ты спагадліва ўсміхаешся і стомлена адказваеш, што ўсё гэта ў мінулым і дарэмныя мары не для цябе. І толькі ўвечары,




кладучыся спаць, сумуеш пра часы, у якія ніколі не трапіш, марыш пра нейздзяйсняльнае і нават не здагадваешся, што табе ўсяго толькі трэба зазірнуць у люстра...».

І гэта не толькі адсылка да сюжэта, дзе дзяўчынка, зачараваная старадаўнім люстрам, угаворвае бацькоў яго набыць і ў той жа вечар трапляе па той бок, у 1550 год, дзе знаёміцца з юным шляхціцам Міхалам Саколічам... Насамрэч, у люстра варта зазірнуць не толькі са спадзяваннем пакінуць звыклую сучаснасць. Але і каб зразумець, што прыгоды — у табе, і безліч фантастычных светаў — таксама ў табе, толькі трэба ўгледзецца і паверыць. Ксенія паверыла.

Кніга, напісаная падлеткам для падлетка, несумненна, цікавая, займальная, шчырая. У ёй абавязкова ёсць месца каханню і сяброўству (тут — у адным флаконе). Але наяўнасць прыгод мае на ўвазе наяўнасць рызыкі, і героі рызыкуюць: тым жа каханнем, жыццём, таксама — будучыняй (Міхал дзеля Басі адмаўляецца ад кар'еры, а ўрэшце — і свайго, звыклага, свету; Бася можа так ніколі і не вярнуцца дадому, назаўжды развітацца з роднымі). Пятнаццацігадовая гераіня цягам кнігі адчувае і радасць, і смутак, і боль расстання, і прагу адкрыць для сябе свет (тут звыклае імкненне падлетка набывае нязвыклую форму: свет літаральна аказваецца незнаёмым); яна разрываецца паміж пяшчотным пачуццём да хлопца і жаданнем стаяць на сваім, бараніць асабісты гонар. Непаслухмяная і цікаўная, але разам з тым — выхаваная і сумленная. Словам, жывая.

### УМОЎНЫ ЛАД ФАНТАСТЫКІ

Натуральнасць — галоўнае дасягненне юнай аўтаркі. Натуральнасць герояў, мовы, асяродка. Так, вядома ж, узнікаюць пэўныя тэхнічныя пытанні. Прыкладам, як могуць разумецца сучасны падлетак і юнак XVI стагоддзя? Аўтарка вырашае пытанне лёгка: маўляў, розніца ёсць, вядома, але ж мова адная, з часам гераіня падладзілася... Гэтак жа прызвычайваецца да сучаснасці Міхал — у другім рамане. Чытач прызвычайваецца да неверагоднасцяў і зусім на іх не зважае. Сапраўды, ці станеш звяртаць увагу на дробязі, калі за рэальнасць трэба прыняць магчымасць падарожнічаць у часе?..

І ўсё ж Ксенія Шталенкова не заніжае патрабаванняў да сябе як да аўтара. Першая частка даволі легкаважная ў плане навуковай асновы пад фантастычны складнік твора, але другая раскрывае гісторыю чароўных люстраў, тлумачыць, што гэтая практыка мае старажытныя карані і, такім чынам, робіць усю гісторыю больш рэалістычнай. Трэцяя частка ці не цалкам аддадзеная гэтай тэме. І калі раней люстры былі толькі «дзвярыма», то цяпер яны выступілі на першы план. Да ўсяго, з'яўляецца яшчэ і Ключ, які іграе сапраўды выключнае значэнне ў трылогіі: у пэўным сэнсе ён робіцца «богам з машыны». У апісаннях гэтай таямнічай прылады аўтарка выявіла ўзорную стараннасць і адказнасць: карыстаючыся імі, можна насамрэч вырабіць усе складнікі і сабраць Ключ. Так натуральнасць аповеду папаўняецца яшчэ і рэалістычнасцю. З часткі ў частку твор «расце». Заўважна гэта і па колькасці ахвяр.

Не тое каб сучасны чытач быў надта крыважэрны. Але хэпі-энд заўжды трошачку засмучае: хіба так бывае?.. Кнігі Ксеніі, незалежна ад сюжэтных паваротаў, сярод якіх хапае і сумных, заўжды поўняцца дзіўным аптымізмам. Дзіўным не таму, што беспадстаўным. Але па сваёй прыродзе: відаць, справа ў адмысловай інтанацыі, у прамяністым поглядзе аўтаркі на свет. Гэты погляд цудоўна бачыць існае: здрады, падман, страты, несправядлівасць лёсу. І ўсё ж — застаецца светлым. Аўтарка ўратуе сваіх герояў, але яны заслужылі шчаслівае завяршэнне гісторыі — бо цягам яе гублялі адно аднаго не раз, і часам, здавалася, назаўжды.

### ПАТАЕМНАЯ ФІЛАСОФІЯ

Адзін з рэцэнзентаў, пішучы пра першую частку трылогіі, заўважыў, што «няма на яе старонках псіхалагічных партрэтаў герояў, філасафічных разважанняў». Як асобных празаічных фрагментаў — сапраўды няма. Але ў тым і справа, што яны не патрэбныя! Ксенія не прыводзіць псіхалагічны партрэт «у лоб» — але ўчынкі яе герояў матываваныя, натуральныя, не змушаныя сюжэтам. І, здаецца, гэта складаней, чым даць гатовае апісанне героя. Гэтак жа няма патрэбы і ў высокай філасофіі, бо яна — у самім творы. Узяць хоць бы пытанне ахвяр. Пан Альбрыхт, мэтанакіраваны і сляпы ў сваім жаданні атрымаць Ключ, гатовы паступіцца чужым шчасцем (і, хто ведае, можа, жыццём). Міхал жа выступае супрацьвагай. Ён, безумоўна, пагадзіўся б з думкай, што ўвесь свет не варты адзінай дзіцячай слязінкі.

Па сутнасці, у аснове трылогіі старая, як свет, і бясконца актуальная думка: ніякае багацце, ніякія звышмагчымасці ці ўлада не вартыя ахвяр, не вартыя простага чалавечага шчасця. Справа не ў прымірэнчасці і хрысціянскай цярплівасці, але ў мудрасці прымаць дадзенае, разумець імгненнае шчасце.

### ГІСТОРЫЯ, АЛЕ НЕ ТАЯ

Атрымаць грунтоўныя гістарычныя звесткі з «Адваротнага боку люстра» не атрымаецца: гэта не падручнік па гісторы ў забаўляльнай форме. Якраз наадварот: каб зразумець асобныя павароты сюжэта, учынкі герояў, абставіны, у якія тыя патрапляюць, чытач мусіць быць падрыхтаваны. Ксенія не пускаецца ў грувасткія гістарычныя тлумачэнні. Максімум — падае кароткія рэплікі герояў, якія змяшчаюць пэўны гістарычны факт. Гэтага цалкам дастаткова для яснасці карціны, калі чытач нешта прызабыў ці раптам не ведаў, і гэтае пачуццё меры дазваляе аўтару захаваць усё тую ж натуральнасць.

Галоўнае ў трылогіі не фактычны матэрыял і нават не фантастычны яе складнік. Галоўнае — адносіны паміж Басяй і Міхалам. Гэта зусім не «салодкая» гісторыя кахання. Творчая інтуіцыя і пачуццё гумару не дазволілі аўтарцы захапіцца рамантычным бокам стасункаў. Яна дадае камічнае, што мае месца ў рэальным жыцці, дадае рэалістычныя непаразуменні паміж хлопцам і дзяўчынай, а галоўнае — не забываецца, што яны найперш людзі. Каханне, няхай і першае, — справа далёка не лёгкая, а часам і проста невыносная. Але ў рэшце рэшт яно — поплеч з дабром — перамагае.

### АДЛЮСТРАВАННІ

Трылогія Ксеніі Шталенковай «Адваротны бок люстра» адначасова ўпісваецца ў некалькі нішаў. Першае і галоўнае — гэта якасны твор для падлеткаў. Другое — годны працяг авантурна-прыгодніцкай (не такой ужо і багатай) лініі ў беларускай літаратуры (згадаем «Авантуры Праншіша Вырвіча» Людмілы Рублеўскай). Трэцяе — трылогія сталася новым прыкладам у кантэксце літаратурных падарожжаў у часе (зноў жа, Людміла Рублеўская з «Альбарутэніяй» і шматлікімі часавымі паралелямі ў іншых яе раманах; «Рыбін горад» Наталкі Бабінай, «Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі» Марыі Роўда). Ёсць спакуса прыпісаць трылогію і да традыцыі гістарычнага рамана (аўтарка згадвала, што захапілася работамі Вітаўта Чаропкі і Уладзіміра Арлова), але трэба прызнаць, што гісторыя тут хутчэй акалічнасць, антураж, чым, умоўна кажучы, самамэта. Ксенія не спрабуе разабрацца ў гістарычных падзеях, не дае ацэнак, не пераасэнсоўвае іх.

І, вядома ж, «Адваротны бок люстра» папоўніў скарбніцу «люстраных» твораў, якім, відаць, наканавана нараджацца, пакуль чалавецтва будзе адчуваць прагу містычнага.

Словам, пакуль яно само будзе існаваць.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Тэрапія творчасцю

## ў арт-аб’ектах і інсталяцыях

### ЭНЕРГІЧНАЕ І НЕТРАДЫЦЫЙНАЕ

Завітаўшы ў доўгія памяшканні Палаца мастацтваў, адчуваеш: патрапіў на свята, дзе энергія колераў, форм, разнастайных элементаў б’е ключом. Белыя сцены стракатыя ад вогненных адценняў абстрактнага жывапісу, а ідучы па выстаўцы, абавязкова трэба звяртаць увагу на падлогу, дзе нечакана пад нагамі можа з’явіцца зграя птушак альбо раскіданая садавіна. Усебеларускі арт-фэст мастацкіх аб’ектаў і інсталяцый «Таму што…» працуе ў Рэспубліканскай галерэі Беларускага саюза мастакоў. Ён падрыхтаваны з ідэяй уразіць гледача, расказаць, чым вартае і ў чым перспектыва такога мастацтва.



Віктар Шылько «Замак прыгажосці», 2013 г.

Удзел у арт-фэсце ўзялі сябры Беларускага саюза мастакоў ды іншых творчых саюзаў, а таксама студэнты беларускіх мастацкіх навучальных устаноў. Куратарам выставачнага праекта выступае мастак, кіраўнік секцыі графікі Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч. Менавіта з яго ідэі — паказаць не жывапіс, не скульптуру, а менавіта мастацкі аб’ект са зместам — і пачалася падрыхтоўка да фэсту. Мастакі паставілі мэту — данесці гледачам сутнасць і перспектыву вобразнасці аб’екта.

Пэўная колькасць экспанатаў зроблена ў стылі трэш-арт, які сёння актуальны ва ўсім свеце. Ён прадугледжвае поўнае адмаўленне ад традыцыйнасці і стэрэатыпнасці, не церпіць шаблонаў і адмаўляе камерцыйную аснову. Такія аб’екты будуць цікавыя гледачам, якія захапляюцца эфектам непрадказальнасці. Абсалютна незвычайная манера падрыхтоўкі твораў у асноўным падуладная маладым аўтарам, якія ўсё часцей цягнуцца да эксперыментаў. Не прытрымліваюцца тэндэнцый, а шукаюць новыя напрамкі, якія ў межах краіны магчыма рэалізаваць.

### ЭКСКЛЮЗІЙНАЯ АБСТРАКЦЫЯ

У арт-фэсце «Таму што…» прымаюць удзел мастакі з розных абласных гарадоў і рэгіёнаў Беларусі. Адно з вядучых месцаў у выстаўцы займае віцебская мастацкая школа. Сярод прадстаўнікоў — таленавіты Аляксандр Малей, паслядоўнік творчасці Казіміра Малевіча. Тут не толькі супадзенне ў сугучнасці прозвішчаў, але і блізкае па духу ўспрыманне мастацтва. Абстрактныя творы Аляксандра Малея — амаль 3D-аб’екты, якія можна выкарыстоўваць на здымачных пляцоўках. Прадстаўленыя творы ствараюць атмасферу містычнасці. Здаецца, што трапляеш на іншую планету. Напэўна, справа ў колерах, якія аўтар спецыяльна не робіць светлымі, а, наадварот, насычае ярка-чырвонымі і ружовымі адценнямі. Так глядач хутчэй усведамляе мастацкую фантастычнасць.

Яшчэ адзін віцебскі мастак — Віктар Шылько. Яго асноўнае крэда — «Імкнуся быць непазнавальным». Творца прывёз на выстаўку серыю палоцен непрадметнага жывапісу, які трэба разгадаць. Задача не з лёгкіх: нягледзячы на візуальную замаскіраванасць палотнаў, мастак аздобіў іх завуаляваным ідэйным зярняткам. Нават людзям, што не маюць дачынення да мастацтва, яго работы будуць даспадобы.

А вось мастак Генадзь Козел інакш адчувае абстракцыянізм: ён аналізуе амаль кожны сантыметр карціны і пазбягае дэкаратыўнасці ў творах, бо лічыць, што ўздзеянне на гледача можа быць надакучлівым. У рабоце аўтар выдзяляе сюжэт, а ўсё астатняе — мастацкі антураж. Прадстаўленая ў экспазіцыі работа «Белы забор» — відавочны прыклад такога падыходу.

### ВІЗУАЛЬНАЕ І ЎНУТРАНАЕ

У самым сэрцы Палаца мастацтваў дэманструюцца птушкі розных відаў, колераў і памераў. Гэта не выпадковы збор крылатых у адной зале. Раней прыгажуні ўдзельнічалі ў мастацкім праекце Уладзіміра Панцялеева «Птушкі сусвету» і палюбіліся беларускай публіцы. Сёння яны — годнае ўпрыгожанне выставачнай пляцоўкі. Іх не трэба ўспрымаць проста, бо птушкі — вытанчаныя творы мастацтва. Напрыклад, маладая мастачка Аксана Еўдакіменка зрабіла невялікую птушку, унутры якой акенца, адкуль выглядае дзяўчына. Падыход аўтаркі дэманструе ўнутраную сувязь чалавечага духу з наваколлем і яго працэсамі. А птушка мастака-жывапісца Аляксандра Грышкевіча не такая шчаслівая і жыццярадасная, як у Аксаны Еўдакіменка: яе тонкія ногі прымацаваныя да жалезнай клеткі, што не дазваляе крылатай атрымаць асалоду ад неабходнага пачуцця свабоды і вольнага палёту. Такім чынам, кожная птушка адкрывае гледачу вочы на ідэю жыцця і існавання. Аўтары далі ім як візуальнае, так і ўнутранае напаўненне. Дарэчы, праект «Птушкі сусвету» выклікае цікавасць у малых, якія атрымліваюць магчымасць не проста паглядзець на птушку, але і патрымаць у руках, адчуць матэрыял, з якога створаны экспанат.



Аксана Еўдакіменка. З праекта «Птушкі сусвету», 2015 г.

### АЎТАРСКАЯ ФІЛАСОФІЯ

Аўтары, якія ўдзельнічаюць у арт-фэсце, безумоўна, арыгінальныя. Многія іх работы выклікаюць нечаканае здзіўленне і прымушаюць задумацца над тым, у якіх умовах стварайся аб’ект. Рэтра-крэсла пад дзіўнай назвай «Дзед Панкрат» у выкананні сталічных дызайнераў Дзмітрыя Сурскага і Дзяніса Трапашкі сшытае з шэрай пацёртай тканіны, ножкі, напэўна, знятыя са стала савецкага часу, а спіна зроблена ў выглядзе галавы з вушамі. Прыглядзеўшыся бліжэй, разумееш: крэсла і ёсць сталы чалавек, адзенне якога выцвіла, але ж дух застаўся моцным.

Напэўна, самы вялікі аб’ект, прадстаўлены ў экспазіцыі, падрыхтаваў Канстанцін Вашчанка. Вялікая канструкцыя ў выглядзе гадзіннага механізма, выкананая з розных жалезных дэталяў, значна вышэй за чалавека. Тут адразу зразумела, што хацеў сказаць аўтар. Нягледзячы на разнастайныя абставіны і перашкоды, трэба ведаць цану часу, адчуваць, што менавіта сёння мы можам зрабіць усё, бо хто ведае, што рыхтуе наступны дзень. Адсюль і такі памер канструкцыі, бо час — адзін з галоўных складнікаў жыцця.



Крысціна Мельнік «Я», 2016 г.

**Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца адзначыў менавіта так:**

— Хопіць нам прыніжацца ў мастацтве, трэба пазіцыянаваць сябе як краіну, што знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Канечне, шмат чаго не зроблена, магчыма, у нейкіх творчых плынях мы спазняемся. Але ж бывае і так, што той, хто спазніўся на пэўным этапе, выбіваецца ў лідары. Мы маем цікавы праект, які распачаў наш паважаны калега Уладзімір Савіч, сам факт удзелу ў працэсе якога — гарантыя, што выстаўка атрымаецца цікавай, змястоўнай і высокамастацкай. Творчы аб’ект хтосьці можа ўспрыняць як нешта простае, кожнаму падуладнае. Але нічога падобнага: аб’ект як жывапіс, графіка і скульптура — мастацкая форма, якая патрабуе адукацыі, мастацкага густу, фантазіі і творчай філасофіі. Сёння мы сведкі важнага свята. Яно, між іншым, стала ўпэўненым адказам усім снобам і скептыкам, якія калісьці Палац мастацтва залічылі ў нешта рэтраграднае. Экспазіцыя яскрава адлюстроўвае, што мастацтва ў гэтых сценах жыве, развіваецца і, безумоўна, дэманструе паспяховы вынік творчых асоб.

Цікавы і арыгінальны твор пад назвай «Дзяцінства са сноў. А я з дзяцінства» падрыхтавала мастачка Валянціна Ляховіч. Яе арт-аб’ект — дзіцячая мара, дзе ёсць усё: пачынаючы ад касмічных матываў і да цацачных самавараў. Канструкцыя прадстаўлена ў выглядзе рознакаляровага слупа, які хацела мець кожнае дзіця савецкіх часоў, таму дарослыя так уважліва і разглядаюць экспанат. Ён абуджае пачуцці, захапляе і падымае настрой.

### ПРАЦЯГ БУДЗЕ

Па словах куратара Усебеларускага арт-фэсту "Таму што…» Уладзіміра Савіча, арганізацыя экспазіцыі была адным з вялікіх крокаў на шляху стварэння маштабных мастацкіх фестываляў і конкурсаў. Работы мастакоў, дызайнераў, архітэктараў, скульптараў, якія публіка можа назіраць на працягу работы фэсту, — заклік да асэнсавання адносін са светам, адносін з самім сабой. Аўтары, нібыта псіхатэрапеўты, творчасцю і адкрытасцю дапамагаюць азірнуцца і зразумець, наколькі душы чалавека патрэбна мастацтва і гармонія з наваколлем. А паколькі сёння ў беларусаў ёсць магчымасць паглыбляцца ў мастацкія працэсы, адчуваць іх развіццё, раскрываць новыя сэнсы, чаму б ёй не скарыстацца? Дарэчы, падчас прагляду экспазіцыі ў выставачнай прасторы іграе якасная джазавая музыка, што робіць атмасферу яшчэ больш святочнай і ўтульнай.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

# Пад маскамі лялек

## *(Частка I. Загадкавыя душы)*

**Свята для тэатралаў: спектакль «Ваня» тэатра *Karlsson Haus* з Санкт-Пецярбурга паказалі ў Мінску на Міжнародным фестывалі тэатраў лялек. Гэта ж проста падарунак — спектакль усяго месяц таму быў адзначаны Нацыянальнай прэміяй Расіі «Залатая маска». Прэміяй за лепшую работу рэжысёра быў адзначаны пастаноўшчык «Вані» беларускі мэтр тэатра Аляксей Ляляўскі. Як жа гэта прапусціць? Але не толькі таму, што нехта адзначае рэжысёраў прэстыжнымі прэміямі (сёлета яшчэ адзін выдатны спектакль з «маскай» быў паказаны на фестывалі — «Забіць Караля» Пермскага тэатра лялек), але і таму трэба глядзець, што ў гэтым відзе тэатра ў Беларусі адбываюцца вельмі цікавыя працэсы.**



*Сцэна са спектакля «Фро» Брэсцкага тэатра лялек у пастаноўцы рэжысёра з Санкт-Пецярбурга Р. Кудашова.*

Лялькі ў тэатры — наша ўсё і яшчэ крыху. Што неаднойчы пацвярджалася на той жа «Залатой масцы» і іншых міжнародных фестывалях, дзе вылучалі работы і Аляксея Ляляўскага, Алега Жугжды, Аляксандра Янушкевіча (сёлета яго пастаноўка ў Пермскім тэатры лялек таксама адзначана прэміяй). Між іншым, уявіць, што могуць нашы рэжысёры, можна было якраз паводле праграмы фестывалю, дзе было сабрана суквецце нашых (!) імёнаў, панарама апошніх, самых гучных прэм'ер беларускіх тэатраў, дзе былі пастаноўкі як дзіцячыя, так і для дарослых. Мы ў сваіх публікацыях звернем увагу на самыя адметныя спектаклі фестывалю, да якіх прыклалі руку беларускія стваральнікі, вылучым некалькі кірункаў, калі за рэжысурай можна ўбачыць больш, чым толькі тэатр. Таму што за любымі лялькамі заўсёды стаяць людзі. Але дзеля пралога ўсё ж — пра казачны падарунак.

### РАЗГАДКА

Такім чынам, «Ваня». Руская народная казка, у тэатры Санкт-Пецярбурга з назвай у гонар Карлсана. Гучыць іранічна. Але гэта супадзенне, як кажуць, трапляе ў яблычак, таму што казка і пра час, і пра людзей з іх паходжаннем, адпаведна, пра патрыятызм. Гэта паводле прачытання Аляксея Ляляўскага. Уявіце, як трэба ўмець чытаць казкі! А як трэба адчуваць свой час! Таму што казка — цудоўная форма размовы з людзьмі, калі нешта трэба сказаць не прама, а іншым чынам, намёкам, паўтонам, алегорыяй. І разам з тым — вельмі проста і зразумела. Казкі ж заўсёды гавораць пра складанае проста. Ці не самая складаная тэма ў наш час — барацьба дабра са злом. Столькі пра гэта ўжо ўсяго сказана (а колькі гаворыцца цяпер), што не паўтарацца і быць небанальным амаль немагчыма.

Можна. У гэтым дапамагаюць не столькі лялькі — яны вельмі прышпільныя, хоць і маленькія. Сапраўды лялькі, якімі распараджаецца (гуляе) больш уплывовая сіла. У дадзеным выпадку Чалавек. Адзін. Акцёр — гэта казачны распавядальнік. Звычайна ў казках усе распавядальнікі ўяўляюцца тыпавымі прадстаўнікамі свайго казачнага свету (у залежнасці ад таго, пра які вядзецца расповед). Распавядальнік гэтай казкі апрануты ва ўніформу з лётным шлемам (можа, адбіліся ўніфікацыя і глабалізацыя?). Казка ўсё ж сучасная (разумее глядач), а тое, што яна руская, выдатна адчуваецца дзякуючы балалайцы, на якой бранчыць акцёр. Ён больш, чым распавядальнік (праз вусны яго нам даводзяць, як усё было насамрэч), па меры развіцця дзеяння мы бачым яго выдатным лялькаводам.

У акцёра свой падыход і тон у дачыненні да кожнага з персанажаў: можа быць рашучы, злы, непрымірымы, абыякавы ці пяшчотны, з любоўю, сімпатыяй і лёгкім сумам. Ён гаворыць і паказвае дзеянні адначасова ўсіх персанажаў (акцёр Міхаіл Шаломенцаў быў адзначаны сёлета «Залатой маскай» за лепшую акцёрскую работу ў тэатры лялек). Ён гаворыць за дзеда і бабу, у якіх была шчаслівая сям'я, пакуль дракон не паглынуў усіх людзей, і старыя засталіся адны, таму што нясмачныя. За Ваню, які чароўным чынам прыходзіць у свет, і толькі дзеля таго, каб вызваліць сыноў дзеда з бабай. За братоў, прыгожую дзеўку і нават ваўкоў, якія так і вартуюць, каго «зачысціць» у лесе. Слова «лес» хоць і абазначае нешта бязмежнае, у дадзеных умовах падаецца замкнёнай прасторай: увесь кавалачак тэатральнай прасторы — гэта, па сутнасці, машына, якая задае тон усяму, што адбываецца: вызначае ўмовы жыцця, прымушае рухацца ў пэўным кірунку, нават спараджае герояў, калі трэба. І дзесьці на ўскраіне гэтага абмежаванага свету (на задворках гісторыі) размяшчаецца чэрава Дракона (Парыжа?). Дракон высмоктвае з людзей душу (праз трубку процівагаза, нібыта сам баіцца прасякнуцца духам рускага жыцця). У ім знікаюць усе людзі (ці без душы яны ўжо зомбі?)

Усім, каго паглынуў Дракон, нядрэнна, нават утульна і прыемна. Вяртацца дадому па сваёй волі ніхто не хоча. Хіба толькі нейкі засланы Ваня вызваліць і верне сілай. Ён і сам не спакушаецца прыгожым жыццём, не тоне і не гіне ў розных выпрабаваннях (бо хто ён такі, каб проста так прападаць?). Ён адшуквае сваіх братоў, дастае сілай, вяртае дамоў — і прарывае рука артыста чорную нацягнутую столь сцэнічнай канструкцыі, вырываецца на волю свабодны дух героя (заадно і наш — перажываем жа).

Зразумела, чаму за такім ідзе прыгажуня, скароная дзіўнай адданасцю радзіме. А вось браты, выцягнутыя з чэрава Парыжа дзеля вяртання ў сумную вёску, расчараваныя. Дык хоць бы дзеўка Ваніна падарыла ім радасць (у якасці кампенсацыі). Герой толькі і перашкаджае. Дык а ў чым жа праблема? Сваю місію вызвалення братоў Ваня выканаў. Можа сысці — у гісторыю.

Забытага і выкінутага з жыццёвай прасторы Ваню шкада толькі прыгажуні, якая ператвараецца ў птушку. За ёю адлятае і душа Вані. Прыгожа. У лепшы свет.



*Сцэна са спектакля «Ваня» Санкт-Пецярбургскага тэатра Karlsson Haus, аўтар — беларускі рэжысёр А. Ляляўскі.*

Каб жыць вечна. На радзіме. Усёй душой. Вось ён, казачны хэпі-энд сучаснай казкі для дарослых.

Пра ўсё падрабязна, каб была зразумелая мараль казкі, якую мы, можа, больш і не пабачым у Беларусі. А шкада — праца рэжысёра цудоўная. Для перадачы сэнсу ён знаходзіць безліч простых прыёмаў. Такіх простых, але не банальных, што гэта сапраўды геніяльна. Акрамя таго, казка пастаўлена на маленькую залу — яна камерная. Таму што пра такое і так можна размаўляць у вузкім коле. Можна гучна гаварыць пра тое, што дракон пераможаны, і шэптам аб тым, што ён пры гэтым застаецца «загніваць» на сваім месцы і ў сваёй прасторы. Можна перажываць за Ваню, калі ён праходзіць усе перашкоды — мы бачым, як акцёр працiскваецца скрозь вузкія тунэлі і праходы. Можна спачуваць адзінокаму герою ў тым, што няма нікога, хто б дапамог яму ў выкананні ягонай місіі, але пры гэтым задавацца пытаннем: а ці ёсць гэты дракон насамрэч, ці не выдумка ўсё дзеда з бабай, якіх пакінулі ўласныя сыны (але ж пра іх дрэнна не скажаш, значыць, трэба шукаць, каго абвінаваціць у асабістай бядзе)? Вось яшчэ раз падумаеш пра тое, што казкі — гэта своеасаблівая форма адлюстравання псіхалогіі, ментальнай асаблівасці тых, кім яны створаны. Казкі розных народаў нездарма ж розныя па сутнасці. Праз іх лягчэй разумець рысы нацыянальнага характару, механізмы, на якіх грунтуецца грамадства і культурныя прыярытэты народаў.

### МЕХАНІЗМ

Не тэхнічны, але вельмі ўплывовы. Механізм ідэалогіі апынуўся пад увагай Брэсцкага тэатра лялек у разглядзе Руслана Кудашова, рэжысёра з Санкт-Пецярбурга і таксама лаўрэата вышэйшай тэатральнай прэміі «Залатая маска» і шэрагу іншых. З Брэсцкім тэатрам лялек галоўны рэжысёр піцерскага Вялікага тэатра лялек супрацоўнічае не першы год. Спектакль «Фро» пастаўлены паводле апавядання Андрэя Платонава, да прозы якога рэжысёр нераўнадушны. Ён сам стварыў інсцэніроўку і, адчуваецца, перажыў і глыбока асэнсаваў тэму, таму што ў назвы спектакля (паводле задумы аўтара) ёсць вельмі доўгі, але красамоўны працяг: «Хаджэнне Ефрасінні Яўстаф'евай, маладой жанчыны, пакінутай мужам, які з'ехаў будаваць камунізм ці нешта яшчэ».

Нам таксама распавядаюць гісторыю, назіраем за ёй нібыта збоку. Рэжысёр паступова расстаўляе прыманкі, на якія глядач павінен клюнуць. І не памыляецца.

Спачатку, зразумела, прыманкай з'яўляецца гісторыя кахання маладой жанчыны Фросі і Фёдара. Мы чакаем, што прыгожая (да гэтага звяртае метафара напачатку). Але каханыя вымушаны развітацца: Фёдар едзе выконваць сваю місію — якое запатрабаванае паняцце, нават у наш час, хоць гісторыя пра 30-я гады мінулага стагоддзя, калі ў рускім свеце (і каля яго) актыўна абмяркоўвалася тэма сусветнай рэвалюцыі. Фёдар марыць пра глабальнае, ён хоча змяніць свет. А Фрося ўвесь час думае толькі пра мужа (вось жа несвядомая!). Яна маладая, ёй хочацца кахання і асабістага жаночага шчасця. А бачыць яна толькі чыгуначныя шляхі, якія праходзяць праз чыесьці лёсы. Ды і людзі ў гэтай сістэме — «калёсікі і вінцікі адзінага механізму»... Таму лялькі — маленькія. Людзі, як рухавікі механізму, вялікія. Гэта таксама спектакль, дзе акцёрская частка істотная. Акцёры ствараюць дух і вобраз эпохі з яе ідэямі, рытмам: усё хутка, зменліва. І пластычна паводле вырашэння. Шэрая ўніформа, але вельмі гучная ў спалучэнні з яркімі акцэнтамі. Напрыклад, «чырвоным куточкам» (яшчэ не ўсе забыліся, што гэта такое, калі меркаваць па рэакцыі залы). Ці аптымістычнымі спевамі (напрыклад, «Бэла чао»), рытмамі танцаў — усё захоплівае. Амаль як ідэя героя. Спектакль нібыта пра прыватнае, але густа населены: тут і тата Фросі, чыгуначнік, яе сяброўкі, кавалеры. Ды і Фрося — не толькі лялька. Гэта актрыса, якая можа быць як сабой (чалавекам, душой), так і маленькай, кранальнай лялькай у руках лёсу. Метафар у спектаклі шмат, яны даюць уяўленне пра час і пра чалавека, якому ў любую эпоху хочацца адчуваць сябе жывым і атрымліваць лісты шчасця (няхай і ў выглядзе самалётыкаў). На фоне маштабу праблем, якія павінны вырашыць гэтыя людзі ў гісторыі, шкадаваць хочацца маленькіх лялек, якія так лёгка могуць зламацца ці згубіцца ў самое свайго лялечнага ложка. Шкада людзей-лялек, таму што ў іх ёсць душа. Нешта такое, што не ўпісваецца ў рамкі механізму. Таму імкнецца (і так бывае) яго зламаць.

Пра гэта разважалі беларускія рэжысёры і ў іншых спектаклях фестывалю. Але яны патрабуюць асобнай размовы менавіта таму, што таксама імкнуцца зламаць пэўныя стэрэатыпы: як тэатральныя, так і чалавечыя.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Здзівіць класікай

**Класічная музыка як рэжысёрскі праект, цэлае дзеянне, непрадказальнае і хвалюючае — уяўляеце? Яны разбіваюць стэрэатыпы, уздзейнічаюць на ўсе пачуцці, распавядаюць пра беларускіх музыкантаў натхнёна і ярка, ведаюць, што такое сцэнічнае майстэрства і магія формы, умеюць заваёўваць увагу. Гаворка ідзе пра Музычны дом «Класіка», супольнасць таленавітых выканаўцаў, артыстаў і менеджараў, якім належыць цэлы шэраг праектаў, канцэртаў, у тым ліку і «Класіка каля Ратушы з *velcom*» па ўсёй Беларусі, пачынаючы з 2012 года. Дырэктар Музычнага дома Аляксандр Чахоўскі распавёў карэспандэнту «ЛіМа», як выйсці за межы акадэмічнага мастацтва, не парушаючы яго сакральнага сэнсу.**

**— Вы змешваеце на сцэне класіку і сучаснае мастацтва, смелыя элементы інтэрактыву. Ці не ўзнікае дысананс у адчуваннях публікі?**

— Музычны дом «Класіка» працуе з формай, не чапаючы зместу. Бярэцца арыгінальная музыка, ці гэта Шастаковіч, Моцарт ці Манюшка, і далучаюцца розныя формы ўзаемадзеяння з гледачом. Напрыклад, падчас экскурсій па музеі-запаведніку «Нясвіж» салісты ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле», з якімі мы цесна супрацоўнічаем, граюць у капліцы, ажыўляючы экспазіцыю. Кожную нядзелю там жа праходзіць музычна-тэатралізаваны паказ, заманлёўкі з жыцця Мікалая Радзівіла Сіроткі. У спектакль плаўна ўваходзіць барочная музыка — як наша, так і еўрапейская. Атрымліваецца наглядная ілюстрацыя да звыклых экскурсій. Такі прыём, між іншым, прывівае людзям музычны густ. Мы арганізоўваем яшчэ і *3D*-канцэрты, калі артысты могуць раптам выйсці з залы, дзе хор сядзіць на глядацкіх месцах, а потым нечакана ўстае і выконвае сваю партыю (у той час як трубач іграе на балконе). У кожны канцэрт стараемся дадаць рэжысуру, прадумваем дэкарацыі і рэквізіт, касцюмы. Ключавы момант — павінна быць суцэльная, гарманічная гісторыя. Так што не можа быць ніякага дысанансу.


Фота з асабістага архіва.

*Аляксандр Чахоўскі падчас музычных вечароў «Класіка каля Ратушы».*

**— Тым не менш некаторыя класічныя музыканты не разумеюць такога фармату...**

— І дарма. Вядома, ёсць музыка, што сама па сабе як прадстаўленне, яе трэба проста сядзець і слухаць. Мы такое таксама практыкуем. Але вось як, да прыкладу, заваяваць увагу дзяцей? Ім у любым выпадку патрэбен інтэрактыў. Не трэба баяцца эксперыментаў, тым больш добра прадуманых. Яны толькі пашыраюць узровень успрымання. Увявіце: прамянадны канцэрт, людзі шпацыруюць па вуліцы, а са сцэны гучаць усе чатыры часткі сімфоніі, якія слухаць трэба суцэльна, седзячы ў філармоніі. Ці яны спыняцца? У Польшчы, напрыклад, ёсць музыканты, якія граюць на раялі ўніз галавой — прычым, класна граюць! Не трэба ператвараць кожны канцэрт у шоу, дастаткова звярнуць увагу на сцэнічнае майстэрства. Паглядзіце на піяніста Кірыла Кедука. У яго не толькі цудоўная тэхніка, але і моцны эмацыянальны пасыл. А цяпер вывядзіце на сцэну выпускніка Акадэміі музыкі, які толькі што атрымаў дыплом. Ён не ведае, што яму рабіць. Чаму? Ніхто не працуе з інструменталістамі ў галіне сцэнічных прыёмаў, яны часта заціснутыя, напружаныя, як струна. Чаму нашы педагогі не тлумачаць, што такое разняволенасць, харызма? Няма ні адной гадзіны ў вучэбнай праграме, прысвечанай і асновам арт-менеджменту. А гэта карысна. У выніку гатовы, таленавіты спецыяліст садзіцца ў аркестр і грае з адным і тым жа тварам усё жыццё. Таму што яму ніхто не паказаў, як трэба. Мы, дарэчы, гэта робім. Калектыў Музычнага дома *MuzzicDom Orchestra* складаецца з маладых, але ўжо прафесійных выканаўцаў. Яны заўсёды поўныя энтузіязму, хваляюць як за тэхніку, так і за тое, як яна будзе пададзена, у якім выглядзе, ці выкліча ў слухачоў адварotную рэакцыю.

**— Як яшчэ ажывіць музычнае жыццё Беларусі? Што новага прыўнесці ў арганізацыю канцэртаў і фэстаў?**

— У Мінску, на мой погляд, дастатковая колькасць канцэртаў. Але ёсць і праблемы. Мала хто думае пра форму, як я ўжо казаў. Другі важны момант, над якім трэба працаваць, — актыўней прывіваць слухачам добры густ. Гэта павінны рабіць як СМІ, так і дзяржаўныя структуры: адкрываць музыцы «зялёнае святло», казаць пра нашых класічных музыкантаў, якія робяць гонар краіне за мяжой, не менш, чым пра спартсменаў, прынятых у футбольны клуб «Баварыя». А ці шмат людзей ведаюць, што Іван Карызна стаў фіналістам класічнага «Еўрабачання» ў 2010 годзе? Не, усё трубяць пра поп-музыку. Нядаўна я правёў эксперымент. У кафэ аднаго бізнес-цэнтра звярнуўся да наведвальнікаў з пытаннем «Хто такі Уладзімір Співакоў?». Спецыяльна выбраў раскручанае імя, бо з беларускіх дырыжораў наўрад ці б кагосьці ўспомнілі. Адказы былі цудоўныя: ад шоумена да тэлевядучага. Адна дзяўчына мяне ўразіла: парыравала пытанне фразай «Я не цікаўлюся беларускай эстрадай!».

Трэцяя праблема, што мяне хвалюе, — ігнараванне спонсарства, камерцыйных брэндаў, якія дапамагаюць у арганізацыі мерапрыемстваў. Яны застаюцца ў цені. Не так даўно Музычны дом арганізоўваў серыю канцэртаў «Сіла класікі *Volkswagen*». Кампанія друкавала нам афішы, прадастаўляла свае аўтамабілі. Але не ва ўсіх анонсах пра іх сказалі. Няўжо незразумела, што выйграваюць у выніку ўсе?

**— Як вы адбіраеце музыкантаў для арганізацыі канцэртаў? Каму аддаецца прыярытэт?**

— Мы заўсёды робім упор на беларусаў. Асабліва тых, хто актыўна гастраліруе за мяжой, а значыць, можа падзяліцца новым, сучасным бачаннем класікі. Нядаўна арганізоўвалі туры па Беларусі з удзелам скрыпача Арцёма Шышкова, віяланчэліста Івана Карызны, піяніста Кірыла Кедука. Усе яны маладыя, але прызнаныя ў свеце віртуозы, лаўрэаты конкурсаў. У маі ў Мінску планавалася выступленне адной з лепшых у свеце сапрана Надзеі Кучар, але салістка захварэла, так што канцэрт перанеслі на 8 чэрвеня. Наогул, на мой погляд, гэта нармальна, калі спецыяліст вучыцца тут, з'язджае, павышае ўзровень дзесьці яшчэ і з назапашаным досведам вяртаецца. У музычнай адукацыі Беларусі наспявае крызіс — сыходзіць старое пакаленне выдатных педагогаў. Хто прыйдзе на змену? Спадзяюся, менавіта тыя, хто зараз запатрабаваны, актыўна выступае, вернуцца, каб вучыць наступнае пакаленне.

**— Аляксандр, як наогул нарадзіўся праект Музычнага дома? Вы ж самі спецыяліст IT-сферы...**

— І скончыў музычную школу па класе віяланчэлі. Я выдатна ведаю, што такое выцягваць мелодыю з інструмента, іграць у аркестры ці саліраваць. Адчуваю, што трэба гледачу, таму што вывучаў бізнес-адміністраванне і менеджмент, філасофію і сацыяльныя навукі. Агент, імпрэсарыа, прадзюсар у адной асобе. А праект паўстаў з дробязяў. Першы год было вельмі цяжка, але мы ўпарта на той час рабілі творчую «рэканструкцыю» ансамбля «Кантабіле», што займаецца старадаўнімі мелодыямі. Адзін з вектараў Музычнага дома дагэтуль — адраджэнне беларускай акадэмічнай музыкі з моманту яе з'яўлення. У гэтым нам вельмі дапамагае кіраўнік і ідэйны натхняльнік «Беларускай капэлы» Віктар Скорабагатаў. Я таксама спрадзюсіраваў пастаноўку камернай лірыка-камедыйнай оперы Станіслава Манюшкі. Але атрымліваецца, што Музычны дом — гэта проста офіс. У нас, на жаль, няма сваёй годнай пляцоўкі. Тым не менш вакол кожнага праекта акумулюецца дастойная артыстычная каманда. На працягу года — каля 300 удзельнікаў!

**— Якімі музычнымі падзеямі хутка парадуеце?**

— Ужо 21 чэрвеня ў Брэсце чакаецца сумяшчэнне на адной сцэне шэдэўраў балета і оперы ў выкананні балерыны Марыі Платохінай і салісткі Вялікага тэатра Беларусі Маргарыты Ляўчук у суправаджэнні сімфанічнага аркестра Брэсцкага драматычнага тэатра. Гэта таксама гісторыя з рэжысурай. А ў ліпені і жніўні — восем сталічных вечароў з «Класікай у Ратушы». Збяруцца самыя годныя беларускія калектывы, у тым ліку аркестры, а таксама замежныя музыканты.

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

# Горад Муз

**Ёсць фестывалі, а ёсць святы. Свята музыкі «Музы Нясвіжа» адбылося сёлета 20-ты раз. Гэта той выпадак, калі фестываль здолеў стаць святам — у сэнсе адпрацаванай традыцыі, якая прыжылася ў горадзе. Але гэтая традыцыя хутчэй аднаўлялася: музыка ў Нясвіжы жыла стагоддзямі, напаўняла горад рознымі гукамі ў адпаведнасці з эпохамі. Яна тут стваралася і стварала тую аўру горада, якая вабіць і прыцягвае.**

Тады, 20 гадоў таму, ідэя паехаць у маленькі раённы горад Беларусі з праграмай камернага фестывалю, якая да таго ж складалася з твораў беларускіх (!) кампазітараў, падавалася авантурнай. Але ініцыятар і мастацкі кіраўнік «Муз Нясвіжа», народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг быў упэўнены: фестываль сваё возьме.

Таму што культура ў людзях непераможная. Яны, праўда, самі часам гэтага не ўсведамляюць. А ў нейкі момант прачынаюцца. Аднойчы пачутая мелодыя, прынятая ў душу музыка, дзівосныя гукі, якія напаўняюць залу, яднаюць усіх, хто ў ёй сабраўся, гарманізуюць прастору і мяняюць жыццё. 20 гадоў з «Музамі Нясвіжа» паскрысе ператваралі горад. На першым фестывалі толькі ўзнікала пытанне: у гарадскім палацы культуры гучаць творы Радзівілаў, а галоўны гістарычны аб'ект Нясвіж тым часам не працуе на айчынную культуру. І вось паскрысе сітуацыя пачала мяняцца. Музы вярнуліся. Вярнулі гораду гісторыю. Напоўнілі жыццём яго і гістарычныя будынкі (ратушу і палац). А цяпер жа і ў іх гучыць музыка!..

Сёлета, напрыклад, у Нясвіжскай гарадской ратушы прагучалі шэдэўры беларускай музыкі для духавых інструментаў, якія прадставілі ансамблі флейтыстаў, трубачоў і кларнетыстаў, што працуюць у складзе Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Касцёл Божага цела — таксама месца, дзе музыка жыве і напаўняе думкамі пра высокае: тут прагучала праграма «Адвечная музыка пад купалам Нясвіжскай святыні». Яе выканаў струнны аркестр заслужанага калектыву.

Але ці не самая адметная камерная праграма прагучала ў Тэатральнай зале Нясвіжскага палаца — «У гонар нясвіжскіх маэстра». Іх нават два. Адзін — аўтар музыкі першай беларускай оперы «Агатка», кампазітар нямецкага паходжання, які працаваў у Нясвіжы, Ян Голанд (сёлета адзначаецца яго 270-годдзе). Але лібрэта гэтай оперы стварыў Мацей Радзівіл па замове гаспадара Караля Радзівіла Пане Каханку. Мацей Радзівіл (пра 265-годдзе якога нагадалі арганізатары свята) і сам быў надзелены музычнымі талентамі, пісаў музыку. Пра ўсё гэта адмыслова ведае шматгадовая вядучая фэсту, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава, якая даследуе беларускую музыку. Дзякуючы яе апантанасці ў музычную спадчыну Беларусі вярнуліся шмат якія імёны творцаў, якіх сваімі лічылі іншыя народы, прынамсі, Польшчы і Расіі. Камерны рух, які пайшоў з Нясвіжа ў іншыя гарады, меў магутны асветны кірунак для Беларусі. Пра гэта ішла гаворка падчас творчага дыялогу Вольгі Дадзіёмавай з аўтарам ідэі, народным артыстам Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Саюзнай дзяржавы Міхаілам Фінбергам.

Асветніцтва мае аддачу (хоць і не такую хуткую, як хацелася б). Напрыклад, у горадзе існуе заслужаны аматарскі тэатральны калектыў імя Уршулі Радзівіл. Яго спектаклі задаюць творчы і вельмі чалавечы тон усяму святу «Музы Нясвіжа». І далей хочацца ўглядацца ў твары маладых музыкантаў, якія прыязджаюць выступаць, будучы лаўрэатамі прэстыжных міжнародных конкурсаў (адмысловы канцэрт «Беларускія віртуозы ў творчым руху»). Услухвацца ў спевы эстрадных спевакоў, разам з імі «Прыгадваем любімыя матывы» (праграма — гучны акорд на закрыццё).

**Марыя АСІПЕНКА**

# Эстэтыка арыгінальнасці

## як творчы метад айчынных скульптараў



Іван Міско «Казімір Семяновіч», 2010 г.

Скульптура — пранікнёны і амаль самы зручны від мастацтва для ўсебаковага адчування творчага слова аўтара, для разумення накіраванасці і філасофіі яго думак, сюжэтаў. Скульптурная кампазіцыя заўсёды жывая, менавіта таму патрабуе свабоды ў прасторы і ўважлівага разгляду з боку гледача. У мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага дэманструецца арыгінальная і канцэптуальная выстаўка «Год скульптуры».

Год скульптуры ў Год культуры — своеасаблівая ідэя і жаданне прадстаўнікоў секцыі «Скульптура» Беларускага саюза мастакоў паказаць, што гэты напрамак у айчынным мастацтве ніколькі не саступае выяўленчаму мастацтву, што беларускія скульптары запатрабаваныя як у краіне, так і за мяжой. Праект паказвае, наколькі актыўна творцы працуюць над новымі кампазіцыйнымі формамі, эксперыментуюць з матэрыяламі і ствараюць якасныя, эксклюзіўныя работы, сэнс якіх не губляецца з гадамі.

Эстэтыку летуценнасці і рамантычнасці на выстаўцы заўважаеш не адразу. Адыходзячы ад бюста Казіміра Семяновіча, над якім працаваў Іван Міско, апынаешся каля філасофскай скульптуры Мікіты Макляцова «Нараджэнне лесу». Работы сур'ёзныя і абгрунтаваныя. Тут жа нечакана заўважаеш побач твор «Адам і Ева» Дзяніса Кандрацьева. Скульптура ўражвае глыбінёй мыслення і далікатнасцю выканання: у сюжэце рэальнае пераплятаецца з выдуманым. Вобразы герояў, як крохкія галіны дрэва, аб'ядналіся ў адно цэлае. На невялічкім, пакуль пустым, кавалачку зямлі яны, свабодныя, пачынаюць доўгае існаванне свету. Іранічныя тэмы ў творчым арсенале беларускіх скульптараў таксама прысутнічаюць. Напрыклад, твор «Царэўна-Жабка» Сяргея Возісава дэманструе абсалютную ўпэўненасць гераіні ў сваёй абаяльнасці. Нягледзячы на ўсе магчымыя асуджэнні з боку гледачоў, казачная істота заняла пазіцыю прыгажуні і ні ў якім разе не жадае саступаць месца. Аўтар падкрэслівае, наколькі пачуццё ўпэўненасці ў сабе спрыяе поспеху на прыкладзе звычайнай балотнай жабы, якую сапраўды ўспрымаеш як царэўну (у гераіні ёсць залацістая карона), аўтар даказвае моц уласнай думкі.

Выставачны праект складае больш як восемдзесят работ пяцьдзясят двух беларускіх скульптараў. У кожнага свая канцэптуальная лінія і ідэя. Індывідуальнай і пластычнай мовай асабістай творчасці скульптары вытанчана адказваюць на пытанні сучаснасці, звяртаюцца да гістарычных каранёў і асэнсоўваюць працэсы зараджэння навакольнага жыцця.

Вялікую ўвагу скульптары надаюць выбару працоўнага матэрыялу. Бо калі пачынаеш працэс, патрэбна ўпэўненасць, што работа з цягам часу не згубіць колер і першапачатковую форму. Амаль усе ўдзельнікі выстаўкі арыентуюцца на прыродную, гарадскую тэмы, дзе твор можа быць сапсаваны навакольнымі працэсамі. Таму ўжо традыцыя — загадзя правяраць матэрыял на дыяпазон разнастайных магчымасцей.



Сяргей Возісаў «Царэўна-Жабка», 2015 г.

Арганізатар праекта — старшыня секцыі скульптуры Беларускага саюза мастакоў Аляксандр Шапо — на адкрыцці экспазіцыі адзначыў, што скульптура — высакародны жанр хоць бы таму, што захоўвае гармонію і эстэтыку чысціні сцен у прасторы. Ён упэўнены: настрой скульптурных твораў стварае своеасаблівую атмасферу як у памяшканні, так і на адкрытых пляцоўках, тым больш беларуская сучасная скульптура цесна пераплятаецца з гісторыяй (дарэчы, таму і не губляе актуальнасці і важнасці).

Праект атрымаўся цікавым і захапляльным. Ён дэманструе, як беларускія аўтары развіваюцца і не губляюць імпэту, як тонка падкрэсліваюць значнасць незаўважных дробязяў, што ствараюць цэласнасць, ідэйнасць твора. Нават знаходзячыся ў зале, дзе няма агульнай тэмы, цікава заўважаць, як работы прыжываюцца побач. У цеснай прасторы яны ажываюць, моцна пазіцыянуючы ўкладзеную аўтарамі тэму.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



## *Культурны ракурс*

Капліца-пахавальня Святаполк-Мірскіх — помнік архітэктуры ў стылі ампір — знаходзіцца за паўкіламетра на ўсход ад Мірскага замка ў маляўнічым англійскім парку, закладзеным у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя па распараджэнні княгіні Клеапатры Міхайлаўны Святаполк-Мірскай. Праект царквы — магільнага склепа быў выкананы пецярбургскім архітэктарам Робертам Марфельдам і ўхвалены Будаўнічым аддзяленнем Мінскай губернскай управы 24 жніўня 1902 года.

Аўтар праекта ніколі не быў у Мірскім замку, але чуў пра яго шмат. Марфельд паспрабаваў зблізіць два будынкі — сярэднявечны замак і царкву — магільны склеп накіраванасцю ўгару, гатычным мурам і колерам чырвонай цэглы. Княгіня Клеапатра не пашкадавала сродкаў, і магільны склеп фактычна «вырас» да аб'ёмаў невялікай царквы: з вежай-званіцай, двума парталамі і нават з сістэмай апалу.

Фасад царквы ўпрыгожвае мазаічны паліхромны (сіні, вохрысты, залацісты колеры) абраз Ісуса Хрыста Уседзяржыцеля, выкладзены з кавалачкаў каляровага шкла — смальты. Дакладна невядома, хто быў аўтарам мазаікі. Паводле адной з версій, яна была выканана ў прыватнай мазаічнай майстэрні Фралова ў Санкт-Пецярбургу, па іншай — мазаічыстам з Познані, у пары з якім працаваў мясцовы майстар Іван Панько. Аднак ні першая, ні другая версіі дагэтуль дакументальна не пацверджаны. Мазаічны абраз насычаны спалучэннем кветак, эфектным залатым фонам і поглядам Хрыста. Побач з абразам знаходзіцца копія картуша Святаполк-Мірскіх з гербамі двух гарадоў — Кіева і Масквы. Картуш і абраз з'яўляюцца, фактычна, самастойнымі элементамі архітэктурнай кампазіцыі царквы-пахавальні.

Царква доўгі час знаходзілася ў занядбаным стане, але ў 2000 годзе, з дапамогай ЮНЕСКА, была адноўлена. Сёння царква-пахавальня апошніх уладальнікаў Мірскага замка — князёў Святаполк-Мірскіх — адкрыта для наведвальнікаў.

**Ірына КАРПАНАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 26.05.2016 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1936.
Кошт у розніцу — 4100 рублёў
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 1881
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686